Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.


25 КАСТРЫЧНІКА 1926 г.

№ 13 (22)

II-гі год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1926 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

## Частка неофіцыйная.

## 1. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### АБ ЗЬМЕНЕ РЭДАКЦЫІ ПУНКТУ 2-га ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ РЭВІЗІЙНЫХ КАМІСІЯХ.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР п а с т а н а ў л я ю ц ь:

Пункт 2 Палажэньня аб раёных рэвізійных камісіях, зацьверджанага ЦВК і СНК БССР 5-га лютага 1926 году (З. З. БССР 1926 г., № 6, арт. 20) запісаць ў наступнай рэдакцыі:

2. Старшыня, намесьнік старшыні, члены, кандыдаты і сэкратар раённага выканаўчага камітэту, загадчыкі часьцямі раённага выканаўчага камітэту і начальнікі ўпраў раённае міліцыі,—могуць быць абраны ў склад рэвізійных камісій не раней, як па сканчэньні году з тае пары, калі імі пакінута пасада.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў**.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч**.

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч**.

18 верасьня 1926 г.
г. Менск.

---

## 2. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### АБ МОВЕ, НА ЯКОЙ ПАВІННЫ СКЛАДАЦЦА ДАКУМЭНТЫ, ШТО ВЫДАЮЦЦА ЎСТАНОВАМІ БССР І ПРЫЗНАЧАНЫ ДЛЯ ПРАД'ЯЎЛЕНЬНЯ І КАРЫСТАНЬНЯ Ў ІНШЫХ РЭСПУБЛІКАХ САЮЗУ ССР.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савет Народных Камісараў БССР п а с т а н а ў л я ю ц ь:

Усе дакумэнты, якія выдаюцца ўстановамі БССР і прызначаны для прад'яўленьня і карыстаньня ў іншых рэспубліках Саюзу ССР, павінны складацца на беларускай і расійскай мовах.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў**.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч**.

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарнушэвіч**.

18 верасьня 1926 г.
г. Менск.

---

## 3. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

АБ ЗЬМЕНЕ АРТ. 6-га ПАСТАНОВЫ ЦВК І СНК БССР АБ ЗАСЬВЕДЧАНЬНІ РАЙЁННЫМІ ВЫКАНАЎЧЫМІ КАМІТЭТАМІ, МЕСТАЧКОВЫМІ І СЕЛЬСКІМІ САВЕТАМІ ЗЬДЗЕЛАК ДАГАВОРАЎ І ДАКУМЭНТАЎ.

Для зьмены пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 5 сакавіка 1926 г. аб засьведчаньні райённымі выканаўчымі камітэтамі, местачковымі і сельскімі саветамі зьдзелак, дагавораў і дакумэнтаў (З. З. БССР 1926 г., № 12, арт. 45) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў пастанаўляюць:

Запісаць артыкул 6-ы памянёнае пастановы ў наступнай рэдакцыі:

6. Зборы за засьведчаньне бяруцца паводле асобнае таксы, якая выпрацоўваецца Народным Камісарыятам Юстыцыі і Народным Камісарыятам Грашовых Спраў, і ідуць у даход райённага бюджэту.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

18 верасьня 1926 г.
г. Менск.

---

## 4. Пастанова Савету Народных Камісараў Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі

АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ ДЗЯРЖАЎНА-ГРАМАДЗКІМ НАСЕННЫМ НАТУРАЛЬНЫМ ФОНДЗЕ БССР.

Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе: зацьвердзіць дададанае да гэтае пастановы Палажэньне аб дзяржаўна-грамадзкім насенным натуральным фондзе БССР.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных
Камісараў БССР **М. Мароз.**

11 кастрычніка 1926 г.
г. Менск.

---

# Палажэньне аб дзяржаўна-грамадзкім насенным натуральным фондзе БССР.

## I. ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ НАСЕННАГА ФОНДУ.

1. Асноўнаю мэтаю ўтварэньня дзяржаўна-грамадзкага насеннага фонду, які знаходзіцца пад ведамам камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, зьяўляецца:

а) забесьпячэньне пасеўным матар'ялам незаможных слаёў вясковага насяленьня ў часы пасеву, насенная дапамога паасобным гаспадаркам, занялаўшым ад паморку на жывёлу, сьмерці або мобілізацыі работнікаў і г. д., а таксама насенная дапамога новаўтвораным сялянскім гаспадаркам, расьсяленцам і інш.;

б) насенная дапамога сялянству райёнаў, якія панесьлі страту ад неўраджаяў і іншых стыхійных няшчасьцяў;

в) палепшаньне сялянскага пасеўнага матар'ялу праз абмен сабраных запасаў на гатунковае і палепшанае насеньне.

## II. УТВАРЭНЬНЕ ФОНДУ.

2. Для дасягненьня зазначаных вышэй мэт дзяржаўна-грамадзкі насенны фонд утвараецца са збожжа (аўса, ячменю, жыта, пшаніцы і грэчкі) і захоўваецца ў натуральным відзе.

3. Насенны фонд утвараецца:

а) з спэцыяльнага асыгнаваньня Ураду БССР;

б) з сродкаў і насенных запасаў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і грамадзка-насенных пасеваў;

в) з насенных запасаў, паступаючых на ўзварот завінавачанасьці па насенных пазычках ад пазычкоўцаў мінулых гадоў.

4. Адносна натуры, чыстаты, усхожасьці і вільгатнасьці, насенны фонд павінен адпавядаць вымаганьням пастановы „Аб урэгуляваньні гандлю насеньнем“ (З. З. БССР 1923 г. № 15—16, арт. 142).

## III. СКАРЫСТАНЬНЕ НАСЕННАГА ФОНДУ.

5. Насенныя пазычкі выдаюцца камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі пад даўгавыя абавязнасьці і аддаюцца ў натуры з налічэньнем ня больш 12% гадавых на організацыйныя і іншыя патрэбы (арт. арт. 7—8).

6. Пазычка павінна быць аддадзена кожным плацежнікам пазычкі пасьля сабраньня ўраджаю і ва ўсякім выпадку не пазьней 15 сьнежня. За прапушчаны час налічаецца пеня ў разьмеры 1% за кожны прапушчаны месяц.

*Увага.* У выпадку неўраджаю ў гаспадарцы і іншых стыхійных няшчасьцяў, выплата пазычкі паасобнымі гаспадарамі можа быць адкладзена ўся або часткова пастановаю камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

## IV. ЗАХАВАНЬНЕ, ЗАГАДВАНЬНЕ, СПРАВАЗДАЧНАСЬЦЬ І КАНТРОЛЬ.

7. Для захаваньня насенных запасаў камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі на мясцох маюць права скарыстоўваць запасныя збожжавыя магазыны, дзе яны захаваліся, або будаваць новыя памяшканьні.

8. Насенны фонд, памяшканьне для яго і абсталяваньне памяшканьня павінны абавязкова страхавацца.

9. Як агульнае кіраваньне зборам насеннае пазычкі, так і ўся тэхніка прыйманьня насеньня, якое аддаецца назад (падлік, справа-

здача), ускладаецца на Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі і на яго мясцовыя органы.

10. Агульны кантроль за дзяржаўна-грамадзкім насенным фондам, за яго станам, папаўненьнем, выдачамі, захаваньнем і за справаздачнасьцю ўскладаецца на Народны Камісарыят Земляробства і на яго мясцовыя органы.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

11 кастрычніка 1926 г.
г. Менск.

---

## 5. Пастанова Савету Народных Камісараў Беларускае ССР

### АБ ЛЯСОХ, ЗНАХОДЗЯЧЫХСЯ НА ЗЯМЛІ, ЯКАЯ ПЕРАДАЕЦЦА СЯЛЯНСТВУ З ЗЯМЕЛЬНАГА ФОНДУ.

Савет Народных Камісараў БССР для разьвіцьця пастановы IV Сэсіі ЦВК БССР VI скліканьня за 7 лютага 1925 году „Аб захадах па дадатковым надзяленьні зямлёю безьзямельных і зусім малазямельных сялян“ (С. У. БССР 1925 г. № 8, арт. 66) п а с т а н а ў л я е:

1. Лес з плошчаў, якія перадаюцца ў зямельны фонд, каб хутчэй ачысьціць ад яго глебу пад сельска-гаспадарчае карыстаньне, павінен быць высечаны ў бліжэйшы час і перш за ўсё там, дзе земляўпарадкоўваецца насяленьне.

2. Лес на плошчах, якія перадаюцца з ляснога фонду ў зямельны, грубінёю 2 вяршкі і менш, пакідаецца тым землякарыстальнікам, якім гэтыя плошчы перадаюцца для сельска-гаспадарчага карыстаньня.

3. Рэшта лесу адпушчаецца: у першую чаргу бясплатна ў межах сапраўднае патрэбы і ня больш устаноўленых норм насяленьню, якому перадаюцца плошчы з-пад гэтага лесу; у другую чаргу—іншым грамадзянам на агульных падставах.

*Увага.* Зазначаны ў гэтым пункце лес уключаецца ў лясны фонд, прызначаны для льготнае і дарэмнае выдачы лесу на мясцовыя патрэбы.

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных
Камісараў БССР **М. Мароз.**

11 кастрычніка 1926 г.
г. Менск.

---

## 6. Пастанова Савету Народных Камісараў Беларускае ССР

### АБ ГАЛОЎНЫХ ЗАДАЧАХ РАБОТЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЮСТЫЦЫІ НА 1926—27 ГОД.

Выслухаўшы даклад Народнага Камісара Юстыцыі і Пракурора Рэспублікі аб намечанай рабоце Народнага Камісарыяту Юстыцыі на 1926/27 г., Савет Народных Камісараў п а с т а н а в і ў:

Плян работы Народнага Камісарыяту Юстыцыі і падпарадкаваных яму судова-сьледчых і пракурорскіх органаў прыняць да ведама.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Юстыцыі накіраваць сваю работу ў 1926/27 годзе на важнейшыя пытаньні, якія высоўваюцца на першы плян сучасным гаспадарчым і політычным становішчам Рэспублікі, у паасобку:

1) Надаючы вялізнае практычнае і політычнае значэньне змаганьню за зьніжэньне цэн, Савет Народных Камісараў лічыць патрэбным узмацніць цяперашнюю работу ў гэтай галіне органаў Юстыцыі. Справы за парушэньне гандлёвае політыкі павінны праходзіць усе стадыі процэсу без чаргі.

2) З такою-ж рашучасьцю органы Юстыцыі павінны змагацца за рэжым эканоміі, у парадку нагляду Пракуратуры за дзейнасьцю адміністрацыйных і гаспадарчых органаў. Распачатая Народным Камісарыятам Юстыцыі работа па рацыяналізацыі свайго апарату павінна быць даведзена да канца.

3) Намечаныя Народным Камісарыятам Юстыцыі разам з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў мерапрыемствы для змаганьня з хуліганствам павінны быць поўнасьцю ажыцьцяўлены з тым, каб да гэтае паважнае задачы дню была прыцягнута ўвага шырокае савецкае грамадзкасьці.

4) З растратамі і з хабарніцтвам трэба змагацца і далей з такою самаю актыўнасьцю, з якою органы юстыцыі змагаліся да гэтага часу.

5) Пракуратура ў галіне яе політычнае работы (даклады, выступленьні на рабочых і сялянскіх сходах, удзел у друку і г. д.) павінна ў 1926-27 г. утрымацца на ўзроўні 1925-26 г.

6) У парадку агульнага нагляду за рэволюцыйнаю законнасьцю органам Пракуратуры трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на вёску. Змагаючыся з парушэньнямі рэволюцыйнага правапарадку ў нізавых савецкіх органах, Пракурутура павінна адначасна браць удзел у ахове лясоў ад раскраданьня і ў спыненьні незаконамерных дзеяньняў у галіне правядзеньня земляўпарадкаваньня.

7) Аднэю з задач Пракуратуры па рабоце ў вёсцы павінна быць змаганьне з кватніцтвам, кабальнымі ўмовамі і з незаконнаю эксплёатацыяю парабкоў.

8) Не абмяжоўваючыся дасягнутымі посьпехамі па разгрузцы спраў у органах суду і сьледзтва, Народны Камісарыят Юстыцыі павінен накіраваць далейшую работу на падняцьце кваліфікацыі працаўнікоў суду і сьледзтва і на палепшаньне тэхнікі процэсуальнага справавядзеньня.

9) Распачатая Народным Камісарыятам Юстыцыі работа па азнаямленьні народных засядацеляў з савецкім законадаўствам павінна быць паглыблена і ўведзена ў сыстэму дзеля таго, каб мець магчымасьць вылучаць з народных засядацеляў новыя кадры працаўнікоў юстыцыі.

10) Надаючы вялікае значэньне папулярызацыі савецкага права сярод шырокіх мас працоўных, Савет Народных Камісараў лічыць патрэбным скончыць організацыю юрыдычных консультацый у районах, даведачных сталоў пры хатах-чытальнях, консультацыйных сталоў на фабрыках і прадпрыемствах і юрыдычных гурткоў пры народных і акруговых судох. Народны Камісарыят Юстыцыі павінен бесьперастанку кіраваць работаю ўсіх пералічаных органаў.

11) Каб уцягнуць шырокія масы працоўных у савецкае будаўніцтва, Савет Народных Камісараў лічыць патрэбным найболыш важныя законапроэкты перадаваць на абгаворваньне рабочых і сялян.

Разам з гэтым, каб выдаць законы ў даступнай для працоўных форме, Савет Народных Камісараў даручае Народнаму Камісарыяту Юстыцыі весьці і далей работу па сыстэматызацыі савецкага заканадаўства і па яго ўдакладненьні (зьнішчэньне супярэчнасьцяй і прабелаў) у адпаведнасьці з разьвіцьцём гаспадарчага жыцьця краіны, пры гэтым першачарговаю задачай у гэтай галіне лічыць падрыхтоўку і выданьне сыстэматычнага зборніку законаў і збору кодэксаў, існуючых у БССР.

Адначасна СНК даручае Народнаму Камісарыяту Юстыцыі весьці і далей і разьвіваць работу па ўдзелу ў агульнасаюзным заканадаўстве праз дачу заключэньняў на проэкты саюзных органаў і праз распрацоўку законапроэктаў у парадку іньцыятывы Саюзных Рэспублік.

12) Савет Народных Камісараў лічыць мэтазгодным далейшае падтрыманьне шчыльнае і жывое сувязі, існуючае паміж Народным Камісарыятам Юстыцыі і Факультэтам Права і Гаспадаркі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

13) Бяручы пад увагу практыку работы органаў Юстыцыі ў змаганьні за рэволюцыйную законнасьць, Народны Камісарыят Юстыцыі павінен сыстэматычна асьведамляць Савет Народных Камісараў аб недахопах у рабоце адміністрацыйных і гаспадарчых органаў, каб СНК мог зьнішчаць гэтыя недахопы адпаведнымі мерапрыемствамі.

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных
Камісарау БССР **М. Мароз.**

14 кастрычніка 1926 г.
г. Менск.

---

## 7. Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ВАЛАКІЦЕ І МЕРАХ БАРАЦЬБЫ З ЕЮ І ЗМАРУДНАСЬЦЮ РУХУ СПРАЎ У СУДОВЫХ ОРГАНАХ.

*Усім Акруговым і Народным Судам.*

Статыстычныя зьвесткі аб руху спраў за 1925 год паказваюць аб накапленьні ў паасобных органах няскончаных спраў.

Апрача таго, вынікі рэвізій паказваюць, што пры агульным здавальняючым руху спраў заўсёды маецца некаторая колькасьць

спраў, у якіх наглядаецца недапушчальная маруднасьць судаводзтва.

З другага боку, у многіх акругах ёсьць такія вучасткі судоў, дзе заўважваецца вялікае накапленьне няскончаных спраў і гэтае накапленьне не дае магчымасьці судам нармальна працаваць. Урэшце, рэвізіямі ўстаноўлена маруднасьць перасылкі спраў, якія накіроўваюцца ў касацыйным парадку ў Вярхоўны Суд і акруговыя суды і наадварот. Маруднасьць гэтая часткова вынікае з няправільнай арганізацыі вышэйпамянёнай перасылкі.

Каб адхіліць паказаныя зьявішчы, Народны Камісарыят Юстыцыі п р а п а н у е:

## А. Акруговым Судам.

1. На падставе зьвестак, якія падаюцца пэрыядычна, сачыць за рухам спраў у паасобных вучастках Нарсудоў, сваячасна даведваючыся аб прычынах накапленьня спраў, і прымаць меры да ліквідацыі гэтага накапленьня.

2. Карыстаючыся кожным знахаджэньнем справы Народнага суда ў Акруговым судзе на касацыйным разглядзе, альбо ў парадку нагляду, а таксама ў час рэвізій, правяраць тэрміны руху спраў і даведвацца аб прычынах устаноўленай маруднасьці, прыймаючы меры да яе адхіленьня, аж да прыцягненьня вінаватага да дысцыплінарнае адказнасьці.

3. Адхіліць заметную практыку Нарсудоў, якія для эканоміі паштовых выдаткаў, накапляюць у сваіх рэгістратурах вялікую колькасьць спраў з тым, каб адсылаць іх паштовай пасылкай, а таксама—адсылку спраў з асобамі, якія не належаць да службовага пэрсоналю.

4. Пры перадачы адным Народным Судзьдзёю другому сваіх вучасткаў уважліва праглядаць акты гэтай перадачы і правяраць кожны раз на вытрымку правільнасьць адзнакаў аб адсылцы спраў з вучастку ў тую, ці іншую ўстанову.

## Б. Народным Судам.

1. Абавязаць Народных судзьдзяў абавязкова праглядаць усе паступаючыя заявы іскавога характару, заявы аб прыцягненьні да крымінальнае адказнасьці, а таксама ўсю перапіску, якая паступае ад органаў дазнаньня. Гэты парадак папярэдзіць мэханічнае завядзеньне спраў, якое мае месца ў сучасны момант, апрача таго, канцылярыя будзе вызвалена ад лішняй працы, якая зьвязана з завядзеньнем і назначэньнем спраў да слуханьня, а ў судовыя пасяджэньні ня будуць выклікацца без патрэбы паасобныя грамадзяне і праца суду будзе больш продукцыйнаю.

2. Прыняць, як правіла, каб ніякая справа, падрыхтаваная да назначэньня, не заставалася не назначанаю да слуханьня ні воднага дню, хаця-б гэта назначэньне, у залежнасьці ад агульнай колькасьці спраў, і адбылося на далёкі ад моманту назначэньня тэрмін.

Важна, каб справа не знаходзілася ў судзе ні воднага дню без распараджэньня Нарсудзьдзі аб яе руху, пры гэтым справы павінны назначацца з такім рахункам, каб павесткі на ім маглі быць сваячасна перададзены выклікаемым у суд асобам і каб талёны павестак былі зьвернуты ў суд да дню разгляду спраў.

3. Наладзіць плянамернасьць у судовай працы, пры гэтым кожнаму Народнаму судзьдзі павінна быць вядома, якую колькасьць

спраў ён можа разглядзець у адзін дзень, прыймаючы пад увагу лік выклікаемых асоб, і, у адпаведнасьці з гэтым, якая колькасьць спраў павінна быць назначана да разгляду.

Кожнае назначэньне спраў належыць запісаць у кнігу назначэньняў, у якой паказваць, апрача назвы справы, і лік выклікаемых асоб. Гэты парадак дае магчымасьць хутка і мэтазгодна распарадзіцца разглядам справы.

4. Прыняць меры супроць частага адкладаньня спраў, якое не выклікаецца неабходнасьцю, дзеля чаго:

а) асьцярожна адносіцца да хадайніцтваў старон аб выкліканьні тых, альбо іншых сьведкаў, здавальняючы іх у тым толькі выпадку, калі акалічнасьці, якія змогуць пасьведчыць сьведкі, маюць істотнае значэньне для спраў;

б) у выпадку адкладаньня справы за няяўкай выкліканых асоб, прыймаць меры да забесьпячэньня іх яўкі на наступнае пасяджэньне, пры гэтым, у выпадку незвароту талёну павесткі да дню пасяджэньня, правяраць, ці паслана павестка, адзначаючы дату і нумар, за якім яна паслана, у пратаколе судовага пасяджэньня, і патрабаваць заўсёды ад органаў, якія перадаюць павесткі, абавязковага яе звароту са спраўкай аб прычынах неперадачы і па звароце перапіскі з павесткай пасьля судовага пасяджэньня абмеркаваць пытаньне аб законнасьці няяўкі;

в) у выпадку няяўкі сьведкаў, па магчымасьці, не адкладваючы справы, абмеркаваць пытаньне аб тым, ці мае істотнае значэньне для справы паказаньне сьведкаў і ці магчыма папоўніць вусныя паказаньні агалашэньнем у судовым пасяджэньні запісу іх паказаньняў на папярэднім сьледзтве, альбо дазнаньні;

г) наглядаюцца часта выпадкі не выкліканага неабходнасьцю адкладаньня грамадзянскіх спраў; належыць мець на ўвазе цэлы рад артыкулаў ГПК, якія даюць суду магчымасьць прысьпешыць разгляд спраў: арт. 98 ГПК, згодна якога суд не абавязан адкладаць справы за няяўкай стараны, якой павестка даручана; арт. 100, які патрабуе ад суду разгляду справы ў адсутнасьці стараны, якая не зьявілася бяз уважлівых прычын па другому выкліканьню, зробленаму з паказаньнем на неабходнасьць яўкі; 72 арт. ГПК, згодна якога пры невядомасьці фактычнага жыхарства адказчыка магчыма разглядаць справу, пры чым павестка тады даручаецца кіраўніцтву таго дому, у якім адказчык апошні час пражываў і, урэшце, 74 арт. ГПК, які дае магчымасьць разглядаць справы ў адсутнасьці старон, якія не паведамілі аб перамене адрасу, прычым павестка тады дасылаецца па адрасу, па якому перадаваліся папярэднія павесткі. Карыстаючыся гэтымі артыкуламі, Нарсуды могуць у значнай ступені разгрузіць свае вучасткі ад спраў, якія ляжалі доўга не разгледжанымі. Апрача таго, суд можа дапамагчы старане хутчэй вырашыць справу, калі ён пакажа на магчымасьць карыстаньня увагай да 25 арт. ГПК аб праве прад'яўленьня іску аб алімэнтах па месцу жыхарства ісца, альбо на 26 арт. ГПК аб праве прад'яўленьня іску да адказчыка, жыхарства якога не вядома, па месцу знахаджэньня маемасьці, альбо па апошняму месцу сталага жыхарства, якое павінна быць ва ўсякім выпадку пэўна ўстаноўлена. Апрача таго, пры прыняцьці іскавых заяў неабходна зварачаць увагу на адпаведныя вымаганьні 76 арт. ГПК, у асаблівасьці на знаходжаньне ў іх дакладнага адрасу старон;

д) карыстаючыся ўсякім выпадкам скліканьня вясковых і адміністрацыйных працаўнікоў у РВК, асобнымі дакладамі паказваць ім на неабходнасьць і магчымасьць акуратнага і своечаснага перада-

ваньня і звароту павестак у інтарэсах сялянскага насяленьня і інструктаваньня іх аб способах перадаваньня.

5. У мэтах адхіленьня выпадкаў ня досыць акуратнага вядзеньня дзелаводзтва, што дрэнна адбіваецца на руху спраў (згуба спраў, знахаджэньне неразгледжаных спраў сярод архіўных і г. д.) пры перадачы вучасткаў адным Нарсудзьдзёй іншаму—належыць прыймаць справы не па іх фактычнай колькасьці, як гэта нярэдка бывае ў сучасны момант, а па настольнаму рээстру, правяраючы, апрача таго, ці сапраўды справа знаходзіцца ў такім становішчы, як яна адзначана ў настольным рээстры, пры гэтым у прыёма-здачнай ведамасьці адзначаць тыя справы, якія лічацца адасланымі ў іншыя ўстановы, з паказаньнем даты і нумару.

6. У мэтах праверкі працаздольнасьці канцылярый Нарсуду і ступені выкананьня імі бягучай працы і паасобных даручэньняў, рабіць пэрыядычныя праверкі перапісак у Нарсудах.

Аб прынятых у выкананьне гэтага мерах паведаміце НКЮ.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі **М. Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ і Загадчык Аддзелу
Судабудаўніцтва і Нагляду **Эднэрал.**

20 верасьня 1926 г.
№ 2.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ НАЛІЧЭНЬНІ ПРОЦАНТАЎ ПА ВЭКСАЛЁХ, ПАДАНЫХ ДА ПРАТЭСТУ, ЗГОДНА АРТ. 15 ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ ВЭКСАЛЁХ.

*Усім Акруговым Судам.*

Па прапушчаных вэксалёх вэксалядзяржацелям належаць процанты ад дню пропуску тэрміну як па пратэставаных, так і па непратэставаных вэксалёх.

Калі прапушчаны вэксаль і выкуплен да яго пратэсту, гэта не вызваляе асоб, якім патрэбна плаціць па вэксалю, ад выплаты процантаў, згодна арт. 14 і 15 Палажэньня аб вэксалёх, ад дню пропуску па дзень здавальненьня.

Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе натарыяльным канторам, у выпадку ўзносу вінаватымі па вэксалю асобамі выплаты па паданых да пратэсту вэксалёх, налічаць належныя па вэксалю сумы і процанты па арт. 15 Палаж. аб вэксалёх і прапанаваць учыняючым выплату ўносіць і процанты.

Вышэйадзначаныя процантавыя налічэньні разам з паступіўшымі ў кантору сумамі на выплату па вэксалёх, зьяўляюцца пераходнымі сумамі і, як такія, падлягаюць запісу па касавай кнізе канторы, у графе „пераходных сум“.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ і Загадчык Аддзелу
Судабудаўніцтва і Нагляду **Эднэрал.**

27/28 верасьня 1926 г.
№ 119.

## 9. Палажэньне аб гарадзкіх і раёнfamous юрыдычных консультацыях і аб консультацыйных сталох на фабрыках і заводах.

Юрыдычныя консультацыі маюць сваею мэтай:

а) рабіць ўсякую правовую дапамогу працоўным масам, пры дапамозе дачы ім адпаведных справак і парад, у мэтах аднаўленьня іх законных праў і інтарэсаў у выпадку парушэньня іх кім-небудзь;

б) папераджаць выпадкі падпольнай адвакатуры, для якой юрыдычная няпісьменнасьць насяленьня зьяўляецца крыніцай абагачэньня.

Вышэйпаказаныя задачы, якія стаяць перад юрыдычнымі консультацыямі, могуць быць дасягнуты толькі ў тым выпадку, калі сець іх будзе пашырана і, апроч таго, калі юрыдычная дапамога будзе беспасрэдна прыбліжана да насяленьня, дзеля чаго Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць неабходным:

1. Організаваць ва ўсіх раёнах юрыдычныя консультацыі.

2. У гарадох організаваць юрыдычныя консультацыі пры адпаведных установах, рэдакцыях газэт і іншых мёсцах, дзе наглядаецца масавы зварот насельніцтва.

3. Для прыбліжэньня юрыдычнай дапамогі да працоўных, якія працуюць на фабрыках, заводах і на чыгунцы, організаваць пры адзначаных прадпрыемствах консультацыйныя сталы.

4. Юрыдычныя консультацыі і консультацыйныя сталы абслугоўваюцца членамі калегій абаронцаў праз устанаўленьне ў іх штодзенных дзяжурстваў у вызначаныя гадзіны, якія папярэдня ўзгадняюцца з адміністрацыяй на месцах і ажыцьцяўляюць сваю дзейнасьць пад беспасрэдным кіраваньнем прэзыдыуму калегіі абаронцаў.

> *Увага.* На тых фабрыках, заводах і чыгунках, дзе праца вядзецца пазьменна, консультацыйныя сталы павінны быць прыстасованы да абслугоўваньня ўсіх рабочых, працуючых у зьменах даннае вытворчасьці.

5. Для ўдзелу ў працы раённых юрыдычных консультацый могуць быць прыцягнуты найбольш падрыхтаваныя члены раённых юрыдычных гурткоў, якія выдзяляюцца для гэтага прэзыдыумам юрыдычнага гуртка.

Праца адзначаных членаў юрыдычнага гуртка, якія выдзелены ў консультацыю, працякае пад беспасрэдным кіраваньнем мясцовага дзяжурнага члена калегіі абаронцаў.

6. У мэтах шырокага апавяшчэньня насяленьня аб працы юрыдычных консультацый Акруговыя суды, разам з калегіямі абаронцаў, павінны абвясьціць насяленьню праз мясцовы друк, фабзаўкомы, мясцкомы, Сельсаветы і г. д. аб гадзінах і днёх працы юрыдычных консультацый і консультацыйных сталоў.

7. Юрыдычныя консультацыі і консультацыйныя сталы даюць справаздачу аб сваей працы Прэзыдыуму калегій абаронцаў у тэрміны, якія устанаўляюцца апошнім.

8. Юрыдычная дапамога ў юрыдычных консультацыях робіцца бяднейшаму насяленьню бясплатна, а іншым грамадзянам за плату, якая ўстанаўляецца таксамі НКЮ.

*Увага.* Рабочым і служачым тых прадпрыемстваў, пры якіх арганізаваны консультацыйныя сталы, юрыдычная дапамога робіцца бясплатна.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **Сегаль.**

Член Кал. НКЮ і Загадч. Аддз. Судабудаўніцтва і Нагляду **Эднэрал.**

27 верасьня 1926 г.
№ 122.

---

## 10. Інструкцыя органам Юстыцыі і Калегіям Абаронцаў аб парадку організацыі справачных сталоў пры хатах-чытальнях і інструктаваньня іх.

Народны Камісарыят Юстыцыі мае ў сваім распараджэньні цэлы шэраг матар'ялаў, якія сьведчаць аб тым, што праца па абслугоўваньню працоўных мас юрыдычнай дапамогай нездавальняюча разьвернута.

Прыбліжэньне суду да насяленьня павінна ў першую чаргу, ісьці па лініі найбольшага забясьпечаньня сялянства юрыдычнай дапамогай, якая яму так часта патрэбна.

Адсутнасьць у многіх раёнах юрыдычных консультацый утварае спрыяючыя ўмовы для працы падпольнай адвакатуры, якая ня брэзгае ніякімі сродкамі ў пагоні за грашыма і часта шукае тых сялян, якія зварочваюцца да паслуг азначанай адвакатуры.

У мэтах адхіленьня вышэйпералічаных недахопаў і ўпарадкаваньня пытаньня аб чыненьні юрыдычнай дапамогі насяленьню, Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць неабходным:

1. Організаваць пры ўсіх хатах-чытальнях справачныя сталы для дачы юрыдычнай дапамогі сялянам і па выдачы апошнім розных справак аб парадку вырашэньня ўзьнікаючых у іх пытаньняў.

2. Кіраўнікі справачных сталоў зьяўляюцца абавязковымі членамі раёнаых юрыдычных гурткоў, у мэтах большай увязкі іх практычнай працы па чыненьню юрыдычнай дапамогі насяленьню, з тэорэтычнай прапрацоўкай у азначаных гурткох паасобных пытаньняў права.

3. Інструктаваньне і беспасрэднае кіраваньне працай справачных сталоў ускладаецца на раённых членаў калегіі абаронцаў.

4. Юрыдычная дапамога пры хатах-чытальнях робіцца на тых самых падставах, што і ў юрыдычных консультацыях, гэта значыцца— бяднейшаму насяленьню бясплатна, а іншым грамадзянам па таксах, устаноўленых НКЮ.

*Увага.* Сумы, якія выручаюцца справачнымі сталамі, ідуць у фонд гэтых-жа сталоў і скарыстоўваюцца на набыцьце юрыдычнай літаратуры і іншага абсталяваньня гэтых сталоў.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **Сегаль.**

Старшыня Галоўполітасьветы **Шамардзіна.**

Член Калегіі Н. К. Ю. і Загадчык Аддзелу Судабудаўніцтва і Нагляду **Эднэрал.**

27 верасьня 1926 г.
№ 127

---

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ДЗЯЖУРСТВАЎ У КАМАРАХ НАРСУДОЎ ДЛЯ РАЗГЛЯДУ СПРАЎ АБ ХУЛІГАНСТВЕ І АБ ІНШЫХ ЗЛАЧЫНСТВАХ.

*Усім акруговым судом і упаунаважаным іх і усім органам міліцыі і крымінальнага вышуку.*

Для ўзмацненьня барацьбы з хуліганствам, якая ў сучасны момант мае першачарговае значэньне, а таксама і з іншымі злачынствамі, якія па мясцовых умовах патрабуюць барацьбы з імі і якія не выклікаюць папярэдняга працяглага дазнаньня з прычыны наяўнасьці ўсіх довадаў па справе і могуць быць разгледжаны зараз-жа, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў прапануюць наступнае:

1. Усе справы аб хуліганстве і аб крадзяжох у тых выпадках, у якіх абвінавачаныя ў гэтых злачынствах злоўлены на месцы ўчыненьня злачынства ці прызналі сябе вінаватымі, калі па гэтых справах не патрабуецца працяглага дазнаньня або сьледзтва, разглядаць у парадку 360—365 арт. арт. КПК.

2. Для разгляду паказаных у п. 1-м спраў, устанавіць у паасобныя дні тыдню, як, напрыклад, у рыначныя дні і ў дні мясцовых сьвятаў, у якія наглядаецца масавае зграмаджэньне народу, у камарах усіх вучастковых Нарсудоў, акруговых гарадоў і райёнаў, па ўзгадненьні гэтага пытаньня з мясцовымі органамі ўлады, дзяжурствы Нарсудзьдзяў і сэкратароў адпаведных вучасткаў Нарсудоў, а таксама і чарговых народных засядацеляў.

3. Дзяжурствы, якія паказаны ў папярэднім пункце, у тых акруговых гарадох, у якіх маецца некалькі вучасткаў Нарсуду, могуць быць прыстасаваны да аднаго з вучасткаў Нарсуду з тым, каб у дзяжурствах прыймалі ўдзел усе Народныя судзьдзі і сэкратары Нарсудоў гораду ў чарговым парадку.

4. Вызначыць у дні дзяжурства ня меньш 6 гадзін у дзень, у якія Нарсудзьдзя, сэкратар Нарсуду і Народныя засядацелі павінны знаходзіцца ў камары Нарсуду безадлучна.

5. Абавязаць Нарсудзьдзяў аб днёх і гадзінах, у якія будуць устаноўлены дзяжурствы ў камарах Нарсудоў, тэрмінова апавясьціць адпаведныя органы акруговай і райённай міліцыі.

6. Абавязаць органы міліцыі і крымінальнага вышуку ўсе справы аб хуліганстве і крадзяжох у тых выпадках, якія паказаны ў першым пункце гэтага абежніку, і ў тыя дні, у якія устаноўлены дзяжурствы ў камарах Нарсудоў, зараз-жа накіроўваць у адпаведныя Нарсуды разам з абвінавачанымі і з матар'яльнымі довадамі, а таксама, па магчымасьці, і з сьведкамі дзеля безадкладнага разгляду іх.

7. Абавязаць Акруговыя Суды і ўпаўнаважаных іх у двух-тыднёвы тэрмін паведаміць Аддзел Судабудаўніцтва і Нагляду НКЮ аб выкананьні гэтага абежніку з дадаткам сьпісу дзён і гадзін дзяжурстваў па асобных камарах Нарсудоў у гарадох і райёнах.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Член Калегіі Народнага Камісарыяту Юстыцыі **Эднэрал.**

5 кастрычніка 1926 г.
№ 132.

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

### АБ АДКАЗНАСЬЦІ МЭДЫЦЫНСКІХ РАБОТНІКАЎ ПРЫ ПАРУШЭНЬНІ ЎМОЎ ІХ ПРОФЭСІЯНАЛЬНЫХ РАБОТ.

*Усім акруговым пракурорам.*

Пашыраным бытавым фактам, асабліва ў мястэчках і вёсках, зьяўляецца атрыманьне дактарамі, фэльчарамі і акушэркамі, якія знаходзяцца на дзяржаўнай і грамадзкай службе, узнагароды ад прыватных асоб, часьцей усяго продуктамі за ўчыненьне імі мэдыцынскай дапамогі.

На месцах паказанае дзеяньне кваліфікуецца, як атрыманьне хабару, і былі выпадкі прыцягненьня дактароў да адказнасьці па 114 арт. К. К.

Н. К. Ю. растлумачвае, што сялянскія мэдработнікі падлягаюць прыцягненьню да адказнасьці па 114 арт. К. К. толькі ў тых выпадках, калі сапраўды маюцца прыметы дзеяньня, якое караецца ў крымінальным парадку. Да гэткіх выпадкаў трэба аднесьці:

1. Атрыманьне ў якой-бы то ні было форме ўзнагароды ад прыватных асоб за ўчыненьне мэдыцынскай дапамогі, пры звароце іх у савецкія і грамадзкія лекавыя ўстановы ў службовы час.

*Увага.* Службовы час у кожнай вучастковай лекавай установе вызначаецца па ўзгадненьні з Райён. Выкан. Камітэтам.

2. Атрыманьне ўзнагароды за ўчыненьне неадкладнай мэдыцынскай дапамогі, г. з.:

а) пры паталёгічных родах, б) атручэньнях, в) небясьпечнасьці для жыцьця пры цечы крыві, г) цяжкіх параненьнях і д) у цяжкіх выпадках заразных захварэньняў.

3. Калі доктар сваімі адносінамі да хворага ў лекавай установе ўтварае неабходнасьць зваротаў да яго ў парадку прыватнай практыкі.

Усе-ж іншыя выпадкі падлягаюць разгляду ў дысцыплінарным парадку адпаведнымі адміністрацыйнымі органамі, дапасоўна да 2 ч. 105 арт. Крым. Код.

За апошні час мелі месца таксама выпадкі прыцягненьня дактароў да крымінальнай адказнасьці за парушэньне рознага роду профэсіянальных абавязкаў, прычым у большасьці гэтых выпадкаў зусім адсутнічалі адзнакі дзеяньняў, якія караюцца ў крымінальным парадку, а мелі месца толькі парушэньні профэсіянальнай этыкі.

Участіліся таксама выпадкі зьнявагі дактароў, фэльчароў і акушэрак, якія знаходзяцца на дзяржаўнай і грамадзкай службе пры выкананьні імі сваіх службовых абавязкаў грамадзянамі, якія зварочваліся да іх за атрыманьнем мэдыцынскай дапамогі.

У сувязі з вышэй паказаным прапануецца:

1) Усім Акруговым Пракурорам весьці асабісты нагляд за справамі, па якіх у якасьці абвінавачаных праходзіць мэдпэрсонал, прычым да гэтых спраў неабходна адносіцца вельмі асьцярожна, усякі раз строга разьмяжоўваючы крымінальныя дзеяньні ад парушэньняў профэсіянальнай этыкі і

2) Узмацніць барацьбу са зьневажэньнямі і гвалтамі, якія робяцца адносна дактароў грамадзянамі, якія зварочваюцца да іх за атрыманьнем мэдыцынскай дапамогі, прыцягваючы вінаватых да крымінальнай адказнасьці па 88 арт. К. К.

Нам. Народн. Камісара Юстыцыі і Пракурора Рэспублікі **Немытых.**

20 кастрычніка 1926 г.
№ 136.

## 13. Асноўная інструкцыя (палажэньне) аб парадку справаводз-тва і справаздачнасьці ў Райённых Выканаўчых Камітэтах.

### I. АГУЛЬНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ.

1. Асноўны парадак справаводзтва і справаздачнасьці ў Райённых Выканаўчых Камітэтах вызначаецца гэтай асноўнай інструкцыяй (палажэньнем), тэхніка-ж вядзеньня (сыстэмы справаводзтва, справаздачнасьці і рахункаводзтва, формы кніг, дакумэнтаў, блянкаў, састаўленьня папер, фарматы і г. д.) рэгулюецца выдаваемымі Рабоча-Сялянскай Інспэкцыяй БССР супольна з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў падручнікамі па справаводзтву ў Райённых Выканаўчых Камітэтах, сельскіх і местачковых Саветах, а таксама інструкцыямі і падручнікамі, выдаваемымі адпаведнымі Камісарыятамі, па ўзгадненьню, альбо супольна з Камісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі.

### II. АБ АБАВЯЗКАХ ПА СПРАВАВОДЗТВУ І СПРАВАЗДАЧНАСЬЦІ СЛУЖБОВЫХ АСОБ РАЙЁННЫХ ВЫКАНАЎЧЫХ КАМІТЭТАЎ.

2. Старшыня Райённага Выканаўчага Камітэту нясе адказнасьць за агульнае становішча справаводзтва і справаздачнасьці, у тым ліку:

а) за акуратнае і сваечасовае выкананьне пастаноў Райённых Выканаўчых Камітэтаў і вышэйшых органаў;

б) за правільнасьць дакумэнтаў па справаводзтву, рахункаводзтву, справаздачнасьці і правільнае іх складаньне і вядзеньне;

в) за вытварэньне кругабежных праверак грашовых сум і справаздачнасьці.

3. Старшыня Райённага Выканаўчага Камітэту хавае гэрбавую пячатку і прастаўляе яе на паперах пэўнага зьместу (гл. п. 14), а таксама непасрэдна вядзе сэкрэтную перапіску (ускрывае, выконвае і хавае яе).

*Увага.* Пры немагчымасьці непасрэдна весьці сэкрэтную перапіску, старшыня можа даручыць яе весьці сэкратару, альбо аднаму з членаў Райённага Выканаўчага Камітэту, пад сваю асабістую адказнасьць.

4. Сэкратар кіруе работамі па справаводзтву Райённага Выканаўчага Камітэту і нясе адказнасьць за тэхнічнае вядзеньне іх, а таксама ведае афармленьнем прыёму і звальненьня ўсіх тэхнічных працаўнікоў Райённага Выканаўчага Камітэту.

5. Сэкратар, як і ўсе загадчыкі частак, абавязан:

а) ведаць усе законапалажэньні, ведамственныя інструкцыі, правілы і загады па пытаньнях, уваходзячых у компэтэнцыю Райённага Выканаўчага Камітэту, і сачыць за тым, каб зьмест выкананых папер не супярэчыў ім:

б) сачыць за тым, каб з Райённага Выканаўчага Камітэту ня выходзілі паперы з запытаньнямі па такіх пытаньнях, вырашэньне якіх прадугледжана існуючымі законапалажэньнямі і загадамі.

в) сачыць за выкананьнем усіх інструкцый і правіл, выдаваемых адпаведнымі дзяржаўнымі органамі, у парадку п. 1-га гэтай інструкцыі;

г) клапаціцца аб палепшаньні і спрашчэньні тэхнікі працы Райённага Выканаўчага Камітэту і аб забесьпячэньні яго неабходнымі канцылярскімі і гаспадарчымі прыладамі;

д) разьмяркоўвае працу сярод тэхнічных працаўнікоў Райённага Выканаўчага Камітэту і інструктуе іх;

е) сачыць за дакладным і сваечасовым выкананьнем папер і непасрэдна прымаць удзел у складаньні каштарысаў, як Райённага Выканаўчага Камітэту, таксама і ўсіх падпарадкаваных яму саветаў і ўстаноў;

ж) сачыць за сваечасовай выдачай справак, якія адносяцца да дзейнасьці Райённага Выканаўчага Камітэту, зацікаўленым органам і асобам:

з) сачыць за захаваньнем кніг і блянкаў, якія знаходзяцца на асобным вучоце, сачыць за захаваньнем і правільным карыстаньнем інвэнтаром і канц. прыладамі;

і) асабіста выконваць больш важную перапіску па агульнай частцы, а ў асобных выпадках—па даручэньню старшыні—і перапіску сэкрэтнага характару (гл. увагу да п. 3);

к) сачыць за правільным вядзеньнем архіву Райённага Выканаўчага Камітэту і захаваньнем архіўнага матар'ялу;

л) падрыхтоўваць матар'ял да пасяджэньняў, асабіста весьці журналы і пратаколы і сачыць за выкананьнем пастаноў;

м) сачыць за сваечасовым паведамленьнем насельніцтва і саветаў аб пастановах Райённага Выканаўчага Камітэту і вышэйстаячых органаў шляхам асабістых апавяшчэньняў і шляхам вывешваньня абвестак і г. д.

н) весьці асабістыя справы членаў і сачыць за вядзеньнем асабістых спраў супрацоўнікаў Райённага Выканаўчага Камітэту і Сельскіх Саветаў.

*Увага.* Асабістыя справы могуць весьціся дзелаводам агульнай часткі па даручэньню сэкратара і за яго адказнасьцю.

6. Члены Райённага Выканаўчага Камітэту нясуць абавязкі па справаводзтву і справаздачнасьці ў залежнасьці ад існуючага паміж імі і старшынёй разьмеркаваньня работы, пры гэтым на аднаго з членаў Райённага Выканаўчага Камітэту ўскладаецца загадваньне касай Райённага Выканаўчага Камітэту і адказнасьць за правільнае выкананьне прыёму, хаваньня і выдаткаваньня грашовых сродкаў, а таксама непасрэднае кіраваньне і кантроль рахункаводзтва і справаздачнасьці.

7. У абавязкі тэхнічных працаўнікоў Райённага Выканаўчага Камітэту (дзелаводаў, рахункаводаў, перапішчыкаў) уваходзіць: прыём, рэгістрацыя, выкананьне, адсылка і хаваньне папер, а таксама вядзеньне рахункаводзтва грашовай і матар'яльнай справаздачнасьці і др. работ па даручэньню загадчыкаў часткамі, старшыні і намесьніка Райённага Выканаўчага Камітэту і сэкратара.

## III. АБ ПІСЬМАВОДЗТВЕ (СКЛАДАНЬНІ ПАПЕР).

8. У службовай перапісцы Райённага Выканаўчага Камітэту ўжываюцца наступныя віды службовых папер:

а) для знадворнай перапіскі: адносіны, прадпісаньні, справаздачы і

б) для ўнутранай перапіскі: службовыя перапіскі.

*Увага.* Усе службовыя паперы складаюцца ясна, коратка, дакладна, бяз лішніх слоў і многаслоўных зваротаў.

9. Кожная службовая папера складаецца на блянку Райённага Выканаўчага Камітэту, альбо на звычайнай паперы з штампам.

10. Па тэрміновасьці выкананьня паперы адрозьніваюцца:

а) сьпешныя, патрабуючыя безадкладнага выкананьня;

б) тэрміновыя, патрабуючыя выкананьня да пэўнага часу;

в) звычайныя, якія выконваюцца ў чарговым парадку, але як правіла, у тэрмін ня больш аднаго тыдню з моманту атрыманьня, за выключэньнем папер, патрабуючых зьбіраньня зьвестак ад Сельскіх Саветаў, альбо перапіскі з другімі органамі.

11. У выпадках, не дапушчаючых прамядленьня, службовыя зносіны вядуцца па тэлеграфу.

12. Калі ёсьць тэлефоны, службовыя зносіны, ня маючыя сэкрэтнага характару і не патрабуючыя абавязковага афармленьня ў дакумэнтах, робяцца праз тэлефонограмы. Перадача службовага паведамленьня тэлефонаграмай роўназначна пісьмоваму паведамленьню.

13. Апрача папер службовай перапіскі ў Раённым Выканаўчым Камітэце складаюцца:

а) дакумэнты, выдаваемыя ў якасьці ўсялякага роду асабістых пасьведчаньняў, альбо з прычыны якога-небудзь выпадку, напрыклад: акты, пасьведчаньні, спраўкі і г. д;

б) паперы, якія сьведчаць прынятыя рашэньні: журналы і пратаколы пасяджэньняў;

в) копіі вышэй паказаных папер і выпісы з іх.

14. Дакумэнты, паказаныя ў п. 13-ым, складаюцца толькі ў выпадках, прадугледжаных палажэньнем аб Раённых Выканаўчых Камітэтах, альбо адпаведнымі інструкцыямі і загадамі і абавязкова па ўстаноўленай форме.

На ўсе такія дакумэнты, а таксама ў выпадках патрэбы і на копіі папер накладаецца пячатка Раённага Выканаўчага Камітэту.

15. Службовыя паперы падпісваюцца старшынёй, альбо членам Раённага Выканаўчага Камітэту і замацняюцца сэкратаром, альбо справаводам. Лік подпісаў больш 2-х дапушчаецца толькі ў неабходных выпадках. Службовыя запіскі падпісваюцца толькі тэй асобай, ад якой яны ідуць.

16. Адказнасьць за зьмест службовых папер нясуць асобы, падпісаўшыя іх.

17. Журналы, альбо пратаколы вядуцца на кожным пасяджэньні Раённага Выканаўчага Камітэту. У іх запісваюцца пытаньні, якія абмяркоўваліся на пасяджэньні, і пастановы, якія па гэтых пытаньнях вынесены. Журналы і пратаколы падпісваюцца старшынёй і сэкратаром пасяджэньня.

## IV. АБ ПРЫЁМЕ, РЭГІСТРАВАНЬНІ І АДСЫЛЦЫ СЛУЖБОВЫХ ПАПЕР.

18. Прыём паступаючых у Раённы Выканаўчы Камітэт пакетаў і папер робіцца адным з супрацоўнікаў Раённага Выканаўчага Камітэту, па назначэньню сэкратара Раённага Выканаўчага Камітэту.

19. Калі пры ўскрыцьці пакету выкрыецца адсутнасьць паперы дакумэнтальнага характару, сэкрэтнай перапіскі, альбо грошай, складаецца акт аб недастачы, адзін экзэмпляр якога перасылаецца ўстанове—адправіцелю, а другі хаваецца ў справах Раённага Выканаўчага Камітэту.

20. Усе атрыманыя Раённым Выканаўчым Камітэтам паперы (уваходзячыя) рэгіструюцца (запісваюцца) ў асобны камбінаваны (агульны) журнал і атрымоўваюць вядомы №, які праастаўляецца на паперах. На ўсіх атрыманых паперах праастаўляецца таксама дата (месяц, дзень, год) іх атрыманьня.

*Ўвага.* У асобных выпадках, вызначаных у парадку п. 1-га гэтай асноўнай інструкцыі, у Раённым Выканаўчым Камітэце

могуць ужывацца, акрамя комбінаванага журналу і іншыя спосабы рэгістраваньня папер, у тым ліку і картачная сыстэма рэгістрацыі.

21. Пасьля таго, як паперы выкананы, на іх робіцца адзнака аб даце (дзень, месяц, год) і характар выкананьня.

22. З адсылаемых з Раённага Выканаўчага Камітэту папер застаюцца копіі (чарнавікі), якія хаваюцца ў справах Раённага Выканаўчага Камітэту разам з выкананымі ўваходзячымі паперамі.

*Увага.* У паасобных выпадках з папер малаважнага характару копіі могуць не застаўляцца.

23. Усе выходзячыя з Раённага Выканаўчага Камітэту паперы рэгіструюцца таксама, як і ўваходзячыя, з прастаўленьнем на іх № і даты (месяц, дзень, год) адпраўленьня; пры гэтым, зьмест паперы, калі не застаецца копіі, заносіцца ў журнал больш падрабязна, як зьмест іншых папер.

24. На пакетах з сэкрэтнымі і грашовымі дакумэнтамі, а таксама паперамі, якія носяць дакумэнтальны характар, ставіцца сургучная пячатка Раёнага Выканаўчага Камітэту.

## V. ХАВАНЬНЕ ПАПЕР.

25. Копіі выходзячых папер і ўсе выкананыя ўваходзячыя паперы хаваюцца ў справах Раённага Выканаўчага Камітэту. На ўсе справы бягучага году складаецца сьпіс.

26. У канцы году ўсе закончаныя справы перадаюцца ў архіў Раённага Выканаўчага Камітэту, дзе хаваюцца ўстаноўлены лік гадоў, пасьля чаго здаюцца ў адпаведны орган цэнтраархіву.

## VI. АБ СПРАВАЗДАЧНАСЬЦІ І РАХУНКАВОДЗТВЕ.

27. Раённыя Выканаўчыя Камітэты вядуць справаздачнасьць і рахункаводзтва па ўсіх грашовых і матар'яльных опэрацыях, зьвязаных з правядзеньнем раённага бюджэту і спагнаньнем дзяржаўных падаткаў і збораў.

28. Дзяржаўныя прыбыткі і зборы, якія прымаюцца Раённым Выканаўчым Камітэтам, а таксама прыбыткі па акруговаму бюджэту, падлічваюцца асобна ад мясцовых і здаюцца ў адпаведныя органы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў у адпаведныя тэрміны.

29. Вучот грашовых і матар'яльных опэрацый робіцца на падставе апраўдальных дакумэнтаў, падцьвярджаючых учыненьне той ці іншай опэрацыі. Такімі дакумэнтамі зьяўляюцца: рахункі, акты, ведамасьці на пэнсію, авансавыя справаздачы і г. д.

30. Грашовыя сумы прымаюцца ў касу Раённага Выканаўчага Камітэту і выдаюцца з касы выключна па пісьмовых загадах (ордэрох), падпісаных старшынёй альбо асобай, яго заменяючай.

*Увага.* Формы вучоту грашовых і матар'яльных опэрацый, а таксама формы прыбытковых і выдатковых ордэроў устанаўляюцца ў парадку п. 1-га гэтай асноўнай інструкцыі.

31. У апраўдальных дакумэнтах, ордэрох і кнігах ніякія падчысткі, памаркі і прыпіскі не дапушчаюцца. У выпадку-ж памылак няправільна-напісанае выкасоўваецца і над ім пішацца правільнае слова альбо сказ. У канцы дакумэнту аб спраўленьні робіцца запэўняючы надпіс.

32. У ўстаноўленыя тэрміны, па назначэньню старшыні Раённага Выканаўчага Камітэту, робіцца праверка справаздачнасьці і грашовых спраў.

*Увага* 1. Праверка можа рабіцца па загаду старшыні і ва ўсякі час.

*Увага* 2. Незалежна ад гэтага робіцца рэвізія Рэвізійнымі Камісіямі і др. прадстаўнікамі ўстаноў, якія маюць права на рэвізію.

33. У ўстаноўленыя тэрміны Раённы Выканаўчы Камітэт прадстаўляе ў Акрфа справаздачныя зьвесткі, паводле інструкцый, выдадзеных у парадку п. 1-га гэтай асноўнай інструкцыі.

34. Раённы Выканаўчы Камітэт вядзе опэратыўную справаздачнасьць па галінах свае дзейнасьці, па формах, устаноўленых у парадку п. 1-га гэтай асноўнай інструкцыі.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР **Радус-Зяньковіч.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

11 кастрычніка 1926 г.
№ 284.

---

Дадатак.

## Рабочая праграма.

### Сэкратарыятам Акрвыканкомаў па назіраньню за правядзеньнем у жыцьцё адзіных форм справаводзтва ў Раённых Выканаўчых Камітэтах, сельскіх і местачковых Саветах.

1. Дасканальнае вывучэньне выпрацаваных Народным Камісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР і выданых Сэкратарыятам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР падручнікаў па справаводзтву (частка 1 падручніка па справаводзтву ў Раённых Выканаўчых Камітэтах і частка 1—у сельскіх і местачковых Саветах).

2. Рассылка ўсім Раённым Выканаўчым Камітэтам анкет дзеля запаўненьня, прагляд іх пасьля звароту, дача сваіх меркаваньняў і пасылка іх пры дакладзе ў Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР (гл. п. 6) з 5/X—па 20/X—26 г.

3. Непасрэднае інструктаваньне і назіраньне за правядзеньнем у жыцьцё падручнікаў шляхам выездаў ва ўсе Раённыя Выканаўчыя Камітэты і 1—8 Сельскіх Саветаў ў кожным раёне.

Праверка вынікаў ўвядзеньня падручнікаў і праверка ведаў працаўнікамі асноў справаводзтва (па падручніках) з 20/X па 20/XI—26 г.

4. Раз'ясьненьне па атрыманых запытаньнях Раённых Выканаўчых Камітэтаў і Саветаў (увесь час).

5. Падагульваньне пастаноўкі на падставе асабістага назіраньня непасрэднага паведамленьня і запытаньня атрыманых ад Раённых Выканаўчых Камітэтаў і Сельскіх Саветаў і выяўленьня ўсіх неабходных зьмен і дадаткаў у падручніках па справаводзтву Раённых Выканаўчых Камітэтаў і Сельскіх Саветаў з прылажэньнем абаснаваных матар'ялаў да гэтых зьмен.

6. Прадстаўленьне ў Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР да 1 сьнежня 26 г. дакладу аб выніках дапасаваньня падручнікаў па справаводзтву ва ўсіх Раённых Выканаўчых Камітэтах і Сельскіх Саветах, з прылажэньнем запоўненых

анкет і матар'ялаў, а таксама з пералікам неабходных зьмен у падручніках.

7. Апрача гэтага ў далейшым Акрвыканкомамі прадстаўляюцца ў Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі справаздачы пакв артальна, па ніжэйпрыведзенай форме. Першая квартальн. справаздача павінна быць прадстаўлена да 1-га студзеня 1927 г., другая да 1/IV—27 г., трэцяя—да 1/VII і г. д.

Дадатак.

## СПРАВАЗДАЧА

.................... Акрвыканкому аб працы па рацыяналізацыі (палепшаньню) справаводзтва нізавога апарату (РВК і С/Савет.)

з ............ па ............

| №№ п/п | Назва Раённых Выканаўчых Камітэтаў і С/Савет. | Час пачатку работы | Што зроблена за справаздачны пэрыяд | Якія перашкоды сустрэліся ў практыцы | Што думаецца зрабіць | Да якога тэрміну |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |

Зацьвердзіць.
Старшыня Эконом. Нарады
БССР М. Карклін.
14 ліпеня 1926 г.

## 14. Статут .................... Таварыства агнятрывалага будаўніцтва.

### I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ.

§ 1. На аснове Пастановы ЦВК і СНК СССР аб сельска-гаспадарчай коопэрацыі за 22-ое жніўня 1924 г. і Пастановы СНК БССР за 2-ое чэрвеня 1926 г. аб дазваленьні арганізацыі таварыстваў сельскага агнятрывалага будаўніцтва ўтвараецца Таварыства Агнятрывалага Будаўніцтва пад назвай ....................
.................... з раёнам дзейнасьці
(сельсавет, раён, акруга) ....................
з месцазнаходжаньнем Праўленьня ....................

§ 2. Таварыства мае мэтай арганізаваць працу і капітал сваіх удзельнікаў для пабудаваньня новых будынкаў з агнятрывалых матар'ялаў і палепшаньне будынкаў, якія ўжо існуюць, а таксама выраб і распаўсюджаньне агнятрывалых і другіх падсобных будаўнічых матар'ялаў, як-та: цэглы, цэмэнту, вапны, бэтону, чарапіцы, саману, калодзежных кругоў для пабудаваньня бэтонных калодзежаў і да г. п.

§ 3. Апрача вытворчых мэт Таварыства ставіць сваей задачай усямерную дапамогу насаджэньню агнятрывалага будаўніцтва ў бліжэйшым райёне шляхам распаўсюджаньня набытых ведаў, а таксама задавальненьня суседніх з райёнам свае дзейнасьці мясцовасьцяй па меры магчымасьці на льготных ўмовах неабходнымі для вытворчасьці матар'яламі, інвэнтаром, машынамі і інш.

§ 4. Для дасягненьня паказанай мэты Таварыства можа:

а) складаць з ліку сваіх членаў рабочыя партыі для правядзеньня работ, якія падпарадкоўваюцца адзінаму кіраўніцтву агульнага сходу Таварыства і абранаму ім Праўленьню. Для выкананьня сьпешных або спэцыяльных работ, у выпадку адсутнасьці ў складзе Таварыства спэцыялістых або выстарчальнае колькасьці рабочае сілы, могуць запрашацца са стараны пастаянныя, сэзонныя або зьдзельныя рабочыя, служачыя і спэцыялістыя;

б) праводзіць ўсякага роду будаўнічыя работы;

в) набываць і арандаваць як ад членаў Таварыства, так і ад пабочных організацый і асоб неабходныя яму і яго членам у справе агнятрывалага будаўніцтва ўсякага роду прылады вытворчасьці, інструмэнты, інвэнтар, будаўнічыя матар'ялы, як-та: кровельнае жалеза, толь, гвазды, шкло, лес, апал і да г. п;

г) распрацоўваць і здабываць агульнараспаўсюджаныя выкапні: пясок, гліну, камень, вапнякі і інш. з вучасткаў зямлі, належачых як членам Таварыства, так і іншым, для чаго арандаваць зямельныя вучасткі;

д) пабудоўваць і арандаваць для патрэб агнятрывалага будаўніцтва заводы, майстэрні і іншыя падсобныя прадпрыемствы;

е) адчыняць магазыны альбо склады для хаваньня і разьмяркоўваньня будаўнічых матар'ялаў, продуктаў вытворчасьці, карысных выкапняў, інвэнтару, інструмэнтаў і да г. п., збываць на старану лішкі свае вытворчасьці.

§ 5. Таварыства карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнае асобы і можа набываць і адчужаць правы па маемасьці, заключаць дагаворы, прымаць па сябе абавязацельствы, шукаць і адпавядаць на судзе, рабіць пазыкі, атрымоўваць пазычкі, дапамогі як ад дзяржаўных, коопэратыўных і інш. установ, так і ад прыватных асоб, выдаваць пазычкі сваім членам на патрэбы агнятрывалага будаўніцтва, адчыняць бібліатэкі, чытальні, выстаўкі, курсы, прымаць удзел у з'ездах, нарадах, сходах, удзельнічаць у організацыі саюзу падобных сабе аб'яднаньняў і ўступаць у саюзы, якія ўжо дзейнічаюць, распрацоўваць і зьдзяйсняць ўсякага роду мерапрыемствы, накіраваныя да разьвіцьця агнястрывалага будаўніцтва.

§ 6. У галіне тэхнічнае дзейнасьці па ўказаных мерапрыемствах сельскага агнятрывалага будаўніцтва Таварыства цалкам падпарадкоўваецца ўказаньням, агульнаму кіраўніцтву і кантролю Народнага Камісарыяту Землеробства БССР і яго мясцовых органаў.

§ 7. Па прынятых на сябе абавязацельствах, а таксама за страты па справах Таварыства, яно адказвае ўсей сваей маемасьцю.

Пры невыстарчальнасьці гэтае крыніцы члены Таварыства адказваюць па абавязацельствах і стратах у парадку і мэжах, устаноўленых гэтым Статутам (§ 18).

## II. СКЛАД ТАВАРЫСТВА, ПРАВЫ І АБАВЯЗАНАСЬЦІ ЯГО ЧЛЕНАЎ.

§ 8. Членамі Таварыства могуць быць асобы ва ўзросьце ад 18 год, не пазбаўленыя выбарчых праў, займаючыеся сельскаю гаспадаркай ці зьвязанымі з ёю промысламі, ці пражываючыя ў райёне

дзейнасьці Таварыства рабочыя будаўнічых спэцыяльнасьцяй, а таксама юрыдычныя асобы (сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні, колектывы, коопэратывы, савецкія гаспадаркі і да г. п.). Найменшы лік членаў Таварыства—5.

*Увага.* Членамі даннага Таварыства ня могуць быць асобы, якія ўжо ўвайшлі ў склад іншых аднародных коопэратыўных Таварыстваў.

§ 9. Кожны фізычны член Таварыства мае на агульным сходзе права аднаго пастаноўчага голасу, незалежна ад ліку набытых ім паёў, і гэта права ня можа быць ім перадаваема. Юрыдычныя асобы ўдзельнічаюць на агульным сходзе праз сваіх прадстаўнікоў з колькасьцю галасоў, устаноўленых агульным сходам Таварыства.

§ 10. Прыём членаў, жадаючых увайсьці ў Таварыства, праводзіцца агульным сходам па пісьмовай іх заяве. Папярэдні прыём членаў можа быць ускладзен агульным сходам на Праўленьне, пры ўмове пасьляйдучага зацьверджаньня агульным сходам.

§ 11. Пры ўступленьні ў Таварыства кожны член абавязан унесьці ўступны і паявы ўзносы, разьмеры якіх вызначаюцца згодна § 23 Статуту, выдаць падпіску аб падпарадкаваньні гэтаму Статуту і абавяцельства ў тым, што ён прымае на сябе адказнасьць па абавязацельствах Таварыства, згодна § 18 Статуту. Пры ўступленьні сваім член Таварыства атрымоўвае імянны білет ці кніжку, у каторую запісваюцца сумы ўнесеных ім паёў, разьмеры яго адказнасьці, выкананыя ім работы і, наоогул, усе разрахункі з Таварыствам. Праўленьню даецца права рассрочкі выплаты паявых узносаў паасобным членам Таварыства.

§ 12. Члены, уступіўшыя ў Таварыства, адказваюць і па тых абавязацельствах Таварыства, якія ўзьнікл̈і да іх уступленьня ў Таварыства.

§ 13. Кожны член Таварыства мае права, падаўшы пісьмовую заяву, выйсьці з ліку членаў Таварыства. Днём выходу лічыцца дзень пастанаўленьня бліжэйшага агульнага сходу аб выбыцьці даннага члена.

§ 14. Днём выбыцьця памёршага члена Таварыства лічыцца дзень, у які ён памёр. У гэтым выпадку можа быць праведзена правапрыемнікамі памершага ліквідацыя яго маемасных праў у Таварыстве або гэтыя правы, за выключэньнем выбарных пасад, перадаюцца правапрыемнікам, уступаючым у члены Таварыства.

§ 15. Член, які ня выконвае без выстарчальна-уважлівых прычын сваіх абавязацельстваў перад Таварыствам, ідзе супроць Статуту Таварыства і законных запатрабаваньняў Таварыства, ці дзейнічае на шкоду яму, можа быць выключан з яго складу па пастанове агульнага сходу. Днем выхаду яго з складу Таварыства лічыцца дзень пастановы агульнага сходу аб яго выключэньні.

§ 16. Член Таварыства, які заявіць аб сваім выходзе, або выключаны з Таварыства аслабаняецца ад абавязку ўдзельнічаць у работах Таварыства з дню пастановы аб гэтым агульнага сходу, але за ім застаецца адказнасьць па ўсіх абавязацельствах па справах Таварыства да канца опэрацыйнага году, калі заява аб выбыцьці або пастанова агульнага сходу аб выключэньні адбылася ня меней, як за тры месяцы да канца опэрацыйнага году, у іншым выпадку адказнасьць прадаўжаецца да канца наступнага опэрацыйнага году.

§ 17. У выпадку выключэньня або выхаду члена Таварыства, маемасьць пастуціўшая ад яго ў карыстаньне Таварыства, звярочваецца толькі па сканчэньні тэрміну, устаноўленага ў дагаворы аб

передачы ў карыстаньне Таварыства. Калі Таварыства атрымала зямлю і маемасьць ад Дзяржавы, то выбываючыя так ці іначай члены трацяць права на іх і Таварыства распараджаецца імі самастойна.

§ 18. Кожны член Таварыства нясе сумесна з усімі іншымі адказнасьць па абавязацельствах Таварыства ў разьмеры .................................................... кратнай сумы ўнесеных паёў. Павялічэньне адказнасьці членаў устанаўляецца агульным сходам.

§ 19. Уступныя ўзносы не падлягаюць звароту. Зварот паёў з прылічаючымся па іх прыбыткам выбыўшым або выключаным членам Таварыства можа быць зроблены толькі па сканчэньні опэрацыйнага году і пасьля зрабленьня ўсіх разрахункаў з Таварыствам. За выключэньнем памянёных паявых ўзносаў, выбыўшыя члены Таварыства ня маюць права на атрыманьне якой-небудзь долі з капіталаў ці другое маемасьці Таварыства.

§ 20. Члены, выключаныя на аснове § 15 Статуту, могуць быць іноў прыняты толькі па пастанове агульнага сходу.

## III. СРОДКІ ТАВАРЫСТВА.

§ 21. Уласныя сродкі Таварыства складаюцца з капіталаў а) зваротнага, б) запаснага і в) спэцыяльнага.

§ 22. зваротны капітал складаецца з: а) уступных і паявых узносаў Таварыства, б) плацяжоў за будынкі і за карыстаньне імі; в) прыбыткаў з маемасьцяй Таварыства і ад продажу продукцыі, г) ад пазык, пазычак, дапамог і ахвяраваньняў, д) штогодных адлічэньняў ад чыстага прыбытку ў разьмеры ня менш 10 процантаў.

§ 23. Пры ўступленьні ў Таварыства кожны член яго ўносіць уступны ўзнос у разьмеры.................. руб. Поўны членскі пай раўняецца.................. руб. Апрача членскіх паёў, члены Таварыства могуц ўнесьці ў Таварыства свой інвэнтар і другую маемасьць, неабходную для дзейнасьці Таварыства на ўмовах, вызначаных па ўзаемнай згодзе.

*Увага.* Спагнаньні па даўгох і абавязацельствах паасобных членаў Таварыства, а таксама па зьвернутых да іх бясспрэчных і адміністрацыйных спагнаньнях ня могуць быць зьвернуты на паявыя ўзносы членаў Таварыства.

§ 24. Членскія паі і ўступныя ўзносы могуць быць ўнесены ў грашовай або натуральнай форме, па ацэнцы ўстаноўленай агульным сходам.

§ 25. Перадача членскіх паёў не дапускаецца.

§ 26. Запасны капітал складаецца: а) шляхам штогодных абавязковых адлічэньняў у яго ня менш 1/5 чыстага прыбытку Таварыства за мінулы год, пакуль гэты капітал не дасягне сумы роўнай 50 проц. зваротнага капіталу, б) з процантаў на запасны капітал.

§ 27. Запасны капітал прызначаецца на папоўненьне страт, якія могуць здарыцца па опэрацыях Таварыства, не папоўненых бягучымі прыбыткамі, і можа расходвацца згодна прызначэньню ня іначай як па пастанове агульнага сходу, які ўстанаўляе і парадак яго захаваньня.

§ 28. Пры зьмяншэньні запаснага капіталу ад пакрыцьця страт ніжэй нормы, прадугледжанай § 26, з чыстага прыбытку пасьляйдучых гадоў у першую чаргу папаўняецца запасны капітал да гэтае нормы.

§ 29. Па пастанове агульнага сходу могуць быць утвораны таксама і іншыя капіталы са спэцыяльным прызначэньнем. Парадак утварэньня, захаваньня і расходваньня гэтых капіталаў вызначаецца агульным сходам.

## IV. РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ ПРЫБЫТКАЎ І СТРАТ.

§ 30. Чысты прыбытак Таварыства, пасьля адлічэньня з яго, згодна §§ 22 і 26 Статуту, ня менш 20% у запасны капітал і ня менш 10% у зваротны капітал, паступае ў распараджэньне агульнага сходу, які можа, па свайму погляду, зьвярнуць яго, паміж іншым: а) на папаўненьне і ўтварэньне капіталаў, згодна мэтам Таварыства, б) на выдачу ўзнагароды за працу членам, в) на выдачу дывідэнду на паі, г) на коопэрацыйныя і іншыя агульнакарысныя мэты.

§ 31. Выявіўшаяся па зваротах Таварыства страта пакрываецца па пастанаўленьню агульнага сходу з запаснага капіталу. Калі-ж страта такім парадкам не пакрываецца, то агульны сход можа або пакрыць яе за лік другіх капіталаў, або разьмеркаваць не хапаючую суму паміж усімі членамі Таварыства пропорцыянальна адказнасьці кожнага з іх (§ 18 Статуту) і вызначыць тэрмін не далей канца году для выплаты кожным свае долі. Тое-ж, што не магло быць сыскана ў працягу году з аднаго члена Таварыства разьмяркоўваецца па таму-ж разрахунку і сыскваецца з іншых членаў у межах, паказаных у § 18.

## V. КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ТАВАРЫСТВА.

§ 32. Кіраўніцтва справамі Таварыства ўскладаецца на: а) агульны сход, б) Праўленьне і в) Рэвізійную Камісію.

### А. Агульны Сход.

§ 33. Да компэтэнцыі агульнага сходу ўваходзяць:

а) выбіраньне членаў Праўленьня і Рэвізійнай Камісіі, вызначэньне ліку іх, выбіраньне ўпаўнаважаных Таварыства, а таксама датэрміновае аслабаненьне ўсіх гэтых асоб;

б) вызначэньне ўзнагароды членам Праўленьня і Рэвізійнай Камісіі;

в) разгледжаньне плянаў будаўнічых і опэрацыйных работ і штатаў Таварыства;

г) разгледжаньне і зацьверджаньне справаздач і каштарысаў, разьмеркаваньне прыбыткаў і страт;

д) вырашэньне скаргаў на Праўленьне, паданых сходу;

е) разгледжаньне пытаньняў аб адказнасьці членаў Праўленьня за недагляды і няправільныя дзеяньні;

ж) разгледжаньне і зацьверджаньне інструкцыі Праўленьню на справах, пералічаных у § 15 Статуту;

з) вызначэньне парадку склікаsuccessfullyньня і работы агульных сходаў;

і) вырашэньне пытаньня аб спыненьні працы Таварыства, дапаўненьні і зьмене Статуту;

к) прыём, звальненьне і выключэньне членаў Таварыства;

л) вызначэньне ўмоў выплаты паявых узносаў, зьмена разьмеру гэтых узносаў;

м) вырашэньне пытаньняў, якія тычацца пазык, атрыманьня пазык, узяцьця ў арэнду зямельных вучасткаў і другое маемасьці;

н) вызначэньне назначэньня дапамог і ўстанаўленьне парадку разьмеркаваньня і рэалізацыі продуктаў вытворчасьці;

о) устанаўленьне расцэнак кошту будынкаў і ўмоў продажу іх;

п) устанаўленьне парадку здачы ў субарэнду маемасьці, знаходзячайся ў арэндзе ў Таварыства;

р) пытаньні аб пабудове новых будынін і пабудоў, з зацьверджаньнем пляну і каштарысу на іх, а таксама і зацьверджаньне прадстаўленьня Праўленьня аб запрашэньні вызначаных падрадчыкаў;

с) выраш'эньне ўсіх спраў, перавышаючых паўнамоцтвы Праўленьня і іншых пытаньняў, якія ўносяцца на абмеркаваньне Праўленьня, Рэвізійнай Камісіі або паасобных членаў Таварыства, напр., устанаўленьне парадку ўдзелу асабістаю працай членаў Таварыства пры пабудаваньні агнятрывалых будоў, разьмеркаваньне работ і інш.

§ 34. Чарговыя агульныя сходы членаў Таварыства склікаюцца Праўленьнем не радзей аднаго разу ў 3 месяцы; надзвычайныя агульныя сходы могуць быць склікаемы па меры патрэбы па пагляду Праўленьня, па патрабаваньню Рэвізійнай Камісіі або $^{1}/_{10}$ часткі членаў Таварыства, для выраш'эньня спраў, якія ня могуць быць адкладваемы. Патрабаваньне членаў Таварыства або Рэвізійнай Камісіі аб скліканьні надзвычайнага сходу выконваецца Праўленьнем не пазьней 2-х тыдняў па атрыманьні патрабаваньня. Пры невыкананьні гэтага патрабаваньня агульны сход склікаецца Рэвізійнай Камісіяй у працягу двух-тыднёвага з дня сканчэньня тэрміну.

§ 35. Аб часе і месцы маючага быць сходу, таксама як і аб пытаньнях, падлеглых яго абмеркаваньню, Праўленьне паведамляе членаў Таварыства за тыдзень і толькі ў выключных выпадках за адзін дзень да адчыненьня сходу. Да абмеркаваньня на агульным сходзе дазваляюцца толькі пытаньні, паказаныя ў павестках. Пастановы, прынятыя законна адбыўшымся сходам большасьцю галасоў, абавязковы для ўсіх членаў, як прысутных так і адсутных.

§ 36. Агульны сход лічыцца адбыўшымся, калі на ім прысутнічае ня менш $^{1}/_{2}$ ўсіх членаў Таварыства. Калі-ж сход склікаецца для выраш'эньня пытаньняў: аб спыненьні дзейнасьці Таварыства, аб зьмене разьмеру адказнасьці членаў Таварыства, аб зьмене Статуту, аб разьмеркаваньні выдаткаў і страт па опэрацыях Таварыства і аб устанаўленьні абавязковых узносаў, то неабходна прысутнасьць ня менш $^{2}/_{3}$ усіх членаў Таварыства.

§ 37. Калі ў дзень, вызначаны для агульнага сходу, не зьбярэцца паказаны ў папярэднім §-фе лік членаў Таварыства, то для выраш'эньня пытаньняў, пастаўленых на павестку дня гэтага сходу, назначаецца не пазьней тыдню другі агульны сход, які прызнаецца адбыўшымся, сколькі-б членаў у ім ні ўдзельнічала, за выключэньнем выпадку, калі агульны сход склікаецца для выраш'эньня пытаньняў, паказаных ў папярэднім §-фе; гэтыя апошнія пытаньні выраш'аюцца на паўторным сходзе ня інакш, як пры ўдзеле $^{1}/_{3}$ ўсіх членаў.

§ 38. На агульным сходзе старшынствуе асоба, выбраная асобна для таго сходам. Асобы, належачыя да складу Праўленьня ці Рэвізійнай Камісіі ня могуць выбірацца за Старшыню сходу. На агульным сходзе могуць удзельнічаць і асобы, якія не зьяўляюцца членамі Таварыства, па запраш'эньню Праўленьня, з правам дарадчага голасу. Члены Праўленьня, Рэвізійнай Камісіі або Ліквідацыйнай Камісіі ня маюць права пастаноўчага голасу на агульным сходзе пры пастанаўленьні раш'эньня па пытаньнях, датычных: а) прыцягненьня іх да адказнасьці, б) звальненьня ад пасады, в) назначэньня ўзнагароды і г) зацьверджаньня падпісаных імі гадовае справаздачы і балянсу.

§ 39. Для пастановы аб зьмене Статуту, аб устанаўленьні абавязковых узносаў членаў Таварыства на ўтвар'эньне спэцыяльных капіталаў, аб зьмене адказнасьці членаў Таварыства і аб ліквідацыі яго патрабуецца большасьць 2/3 галасоў прысутных на сходзе; іншыя-ж справы і пытаньні выраш'аюцца простай большасьцю галасоў.

§ 40. Пастановы агульнага сходу ўносяцца ў асобную кнігу пратаколаў, якія падпісваюцца Прэзыдыумам сходу. Да пратаколаў далучаецца сьпіс усіх прышоўшых на сход членаў Таварыства.

§ 41. На агульным сходзе кожны член Таварыства мае права заявіць свае пярэчаньне і патрабаваць занясеньня яго ў пратакол, калі ён знаходзіць пастанову сходу праціўнай закону, Статуту або інтарэсам Таварыства.

§ 42. У буйных Таварыствах, дзе лік членаў перавышае 100 чалавек, агульны сход мае права выбраць сход упаўнаважаных, які надзяляецца ўсімі правамі і на які ўскладаюцца ўсе абавязкі агульнага сходу.

§ 43. Сход упаўнаважаных выбіраецца на год. Лік прадстаўнікоў устанаўляецца агульным сходам.

## Б. Праўленьне.

§ 44. Праўленьне зьяўляецца выканаўчым органам Таварыства. Яно абавязана весьці ўсе справы Таварыства і быць яго прадстаўніком без асобнае на тое даверанасьці, дзейнічаючы на падставе гэтага Статуту і зацьверджаных агульным сходам правіл.

§ 45. На Праўленьне ўскладаецца:

а) скліканьне агульных сходаў;

б) выкананьне ўсіх пастаноў агульнага сходу;

в) кіраваньне ўсімі работамі і кіраўніцтва ўсімі падсобнымі прадпрыемствамі, а таксама разьмеркаваньне работ паміж членамі Таварыства іназіраньне за правільным іх выкананьнем;

г) заключэньне ад імя Таварыства ўсіх дазволеных актаў, а таксама прадстаўніцтва па справах Таварыства.

д) прыём грашовых сум, выдача даўгавых абавязацельстваў, вэксалёў ад імя Таварыства і вытвар выдаткаў у межах каштарысаў і пастаноў агульнага сходу;

е) купля і продаж матар'ялаў, інвэнтару і інш. маемасьці і яе захаваньне і ўтрыманьне, наём і здача ў арэнду складаў, памяшканьняў, неабходных для опэрацый Таварыства;

ж) страхаваньне маемасьці Таварыства;

з) сыскваньне на карысьць Таварыства і адказ на судзе па сысках, прад'яўленых Таварыству;

і) запрашэньне, наём і звальненьне рабочых, служачых і спэцыялістых, згодна зацьверджаных агульным сходам інструкцый;

к) організацыя і вядзеньне рахункаводзтва, справаздачнасьці і справаводзтва па справах і прадпрыемствах Таварыства;

л) складаньне каштарысаў, вытворчых планаў, зацьвярджаемых агульным сходам;

м) назіраньне за правільным выкарыстаньнем дапамог, матар'ялаў і інструмэнтаў, выданых паасобным членам;

н) зносіны з урадавымі органамі, вядзеньне ўсіх бягучых спраў Таварыства і выкананьне другіх абавязнасьцяй, устаноўленых гэтым Статутам, ці ўскладзеных пастановаю агульнага сходу.

§ 46. Опэрацыйны год Таварыства лічыцца з 1-га студзеня па 31-ае сьнежня. За кожны мінулы год Праўленьне складае і падае на зацьверджаньне агульнага сходу падрабязную гадовую справаздачу па ўсіх опэрацыях Таварыства і балянс яго маемасьці (заключны балянс) не пазьней 2-х месяцаў па сканчэньні справаздачнага году.

§ 47. Справаздачны балянс павінен мець наступныя артыкулы:

а) становішча капіталаў: зваротнага, запаснага і спэцыяльных з паказаньнем паявых узносаў паасобных членаў і разьмераў адказнасьці кожнага з іх па абавязацельствах Таварыства;

б) агульны прыбытак і выдатак за справаздачны час па ўсіх опэрацыях Таварыства;

в) рахунак выдаткаў на пэнсію і іншыя расходы па ўтрыманьню служачых;

г) рахунак гатовае маемасьці Таварыства;

д) рахунак даўжнікоў і крэдытараў Таварыства;

е) рахунак выдаткаў па кіраўніцтву;

ж) рахунак прыбыткаў і страт;

з) рахунак чыстага прыбытку і прыкладное разьмеркаваньне яго.

§ 48. Гадавая справаздача павінна быць складзена і падпісана членамі Праўленьня і праверана Рэвізійнай Камісіяй не пазьней як за 2 тыдні да агульнага сходу. У працягу 2-х тыдняў справаздача павінна быць у вызначаныя гадзіны адчынена для азнаямленьня членам Таварыства.

§ 49. Унутраны распарадак вядзеньня спраў у Праўленьні вызначаецца наказам, зацьверджаным агульным сходам.

§ 50. Праўленьне павінна весьці сьпіскі:

а) членаў Таварыства, б) паявых і ўступных іх ўзносаў, в) разьмеру агульнай сумы адказнасьці па абавязацельствах Таварыства, якая ляжыць на членах.

§ 51. Праўленьне складаецца ня менш як з 3-х членаў, абіраемых агульным сходам на 1 год, да іх абіраецца тым-жа парадкам ня менш 2-х кандыдатаў для часовага замяшчэньня адсутных членаў Праўленьня.

§ 52. У склад Праўленьня і Рэвізійнай Камісіі ня могуць уваходзіць у адзін і той час асобы, якія знаходзяцца паміж сабою ў сваяцтве да другой ступені ўключна, а таксама і супругі.

§ 53. Старшыня Праўленьня выбіраецца агульным сходам, намесьнік старшыні выбіраецца самім Праўленьнем.

§ 54. Праўленьне зьбіраецца ня менш аднаго разу ў тыдзень. Аб часе пасяджэньня члены Праўленьня павінны быць паведамлены загадзя.

§ 55. Пасяджэньні Праўленьня лічацца адбыўшыміся, калі ў іх прысутнічае не менш 3-х членаў Праўленьня, у тым ліку Старшыня або яго намесьнік.

§ 56. У выпадку хваробы або адсутнасьці члена Праўленьня, месца яго займае кандыдат, атрымаўшы найбольшы лік выбіральных галасоў.

§ 57. Справы ў Праўленьні вырашаюцца простай большасьцю галасоў; пастановы Праўленьня ўносяцца ў кнігу і падпісваюцца прысутнымі членамі.

§ 58. Уся перапіска па справах Таварыства праводзіцца ад імя Праўленьня за подпісам аднаго з членаў; дагаворы і іншыя акты і абавязацельствы падпісваюцца ня менш чым двумя членамі Праўленьня, у тым ліку Старшынёю або яго намесьнікам. Для атрыманьня з крэдытных устаноў, з пошты, ж.-д. станцый, мытніц, і да г. п. ўсякага роду адпраўленьняў грашовых сум, дакумэнтаў, тавараў і інш., неабходны таксама два подпісы: Старшыні або яго намесьніка і аднаго члена Праўленьня з прыкладам пячаткі Таварыства.

§ 59. Агульны сход можа назначыць членам Праўленьня ўзнагароду ў якасьці сталае пэнсіі.

§ 60. Скаргі на Праўленьне падаюцца агульнаму сходу.

§ 61. Член Праўленьня можа быць выдален з пасады да тэрміну, на які ён выбран, па пастанове агульнага сходу.

§ 62. Члены Праўленьня, парушыўшыя свае абавязнасьці, адказваюць салідарна ўсёю сваёю маемасьцю за ўсе страты, зробленыя імі Таварыству. Па справах, даручаных агульным сходам выключна аднаму з членаў Праўленьня, астатнія члены Праўленьня не нясуць адказнасьці, калі яны ня мелі магчымасьці перасьцерагчы шкоду.

## В. Рэвізійная Камісія.

§ 63. Рэвізійная Камісія выбіраецца штогодна агульным сходам у складзе ня менш 3-х асоб, не зьяўляючыхся членамі Праўленьня. §§ 51, 52, 56, 57 і 61 гэтага Статуту адпаведна прыстасоўваюцца і да Рэвізійнай Камісіі.

§ 64. На Рэвізійную Камісію ўскладаецца праверка справаздач і каштарысаў і прадстаўленьне заключэньня па гэтых справаздачах і каштырысах агульнаму сходу, а таксама фактычная рэвізія ўсяе маемасьці і ўсіх галін дзейнасьці Таварыства, для чаго Рэвізійная Камісія мае права трэбаваць ад Праўленьня прадстаўленьня ўсіх неабходных зьвестак.

*Увага.* Даклады Рэвізійнай Камісіі перад іх прадстаўленьнем агульнаму сходу накіроўваюцца Праўленьню для таго, каб яно дало належачыя тлумачэньні.

§ 65. Скаргі на Рэвізійную Камісію падаюцца агульнаму сходу, але ня іначай, як цераз Камісію, якая абавязана прадставіць іх бліжэйшаму агульнаму сходу сваім аб'ясьненьнем.

## VI РАХУНКАВОДЗТВА І СПРАВАЗДАЧНАСЬЦЬ.

§ 66. У Таварыстве абавязкова вядуцца:

а) прыбыткова-выдатковая кніга па ўсіх грашовых зваротах Таварыства.

б) імянны сьпіс членаў Таварыства з паказаньнем разрахункаў з кожным з іх, а таксама належачых ім паёў;

в) рабочы дзеньнік з паказаньнем зробленых работ і з адзнакай аб долі ўдзелу членаў;

г) інвэнтарны опіс маемасьці;

д) таварная ведамасьць матар'ялаў і продуктаў, паступаючых на склад і выданых са складу;

е) разрахунковыя кнігі па разрахунках з дэбіторамі і крэдыторамі Таварыства.

## VII ЛІКВІДАЦЫЯ ТАВАРЫСТВА.

§ 67. Таварыства зачыняецца:

а) па пастанове агульнага сходу Таварыства;

б) у выпадку аб'яўленьня судом Таварыства н е з а м о ж н ы м;

в) калі лік членаў Таварыства стане менш 5-ці і Таварыства не папоўніцца новымі членамі да склїканьня ліквідацыйнага сходу;

г) па пастанове Акруговага Выканаўчага Камітэту ў выпадку ўхіленьня Таварыства ад паказанай у Статуце мэты, а таксама ў выпадку схіленьня яго дзейнасьці ў бок, шкодны інтарэсам дзяржавы;

д) пастанове Народнага Камісарыяту Земляробства, калі ў гадовы тэрмін з дню рэгістрацыі ня будзе пачата выконваньне намечаных Статутам Таварыства задач.

§ 68. Тэрмін ліквідацыі Таварыства не павінен перавышаць аднаго года з дню пастановы аб ліквідацыі.

§ 69. У выпадках, прадугледжаных § 67, Праўленьне або Сход Упаўнаважаных павінны неадкладна склікаць агульны сход, які пастанаўляе ліквідаваць Таварыства і вызначае парадак гэтае ліквідацыі.

§ 70. Пастанова агульнага Сходу аб ліквідацыі паведамляецца ў Акруговы Зямельны Адзел і публікуецца ў офіцыйным Урадавым органе.

§ 71. Ліквідацыя спраў Таварыства праводзіцца Праўленьнем, калі па пастанове агульнага сходу ня будзе вызначана спэцыяльная Ліквідацыйная Камісія ў складзе ня менш 3-х асоб.

§ 72. Члены Ліквідацыйнай Камісіі падпарадкоўваюцца агульным правілам, устаноўленым для членаў Праўленьня, і на тых-жа асновах нясуць адказнасьць за зробленыя імі Таварыству страты, а таксама падлягаюць контролю Рэвізійнай Камісіі. Нагляд за ліквідацыяй зьдзяйсьняецца мясцовымі органамі Народнага Камісарыяту Земляробства.

§ 73. Ліквідацыйная Камісія выконвае абавязацельствы Таварыства, атрымлівае і сыскваe па яго патрабаваньнях і распрадае належачую Таварыству маемасьць. Уступаць у новыя абавязацельствы ліквідацыйная камісія мае права толькі ў тым выпадку, калі права на гэта дадзена ей агульным сходам.

§ 74. Калі маемасьць Таварыства будзе невыстарчальнай для пакрыцьця ўсіх абавязацельстваў яго, то Ліквідацыйная Камісія сыскваe з членаў Таварыства даплату, у межах прынятай імі на сябе адказнасьці, згодна § 18.

§ 75. Зварот паёў удзельнікам Таварыства можа быць зроблен не раней пагашэньня ўсіх даўгоў і абавязацельстваў Таварыства. Сума, неабходная для задавальненьня па спрэчных даўгох Таварыства і па даўгох, па каторых тэрміны яшчэ не надышлі, адлічаецца Ліквідацыйнай Камісіяй.

За парушэньне правіл гэтага §-фу члены Ліквідацыйнай Камісіі адказваюць салідарна як перад Таварыствам, так і перад крэдыторамі. Такая ж адказнасьць ускладаецца і на членаў Рэвізійнай Камісіі, калі, па выяўленьні парушэньняў, імі ня было заяўлена аб тым у пісьмовай форме.

§ 76. Пасьля выплаты даўгоў Таварыства і звароту паявых узносаў Ліквідацыная Камісія зьвяртае застаўшуюся маема сьць і капіталы Таварыства на мэты, паказаныя агульным сходам.

§ 77. Ліквідацыйная справаздача, пасьля зацьвярджаньня яе агульным сходам, сумесна з усімі кнігамі, дакумэнтамі справамі і пячаткай Таварыства прадстаўляецца ў Акруговы Зямельны Аддзел для захаваньня ў устаноўленым парадку.

## VIII. Парадак зьмены і дапаўненьня статуту

§ 78. Агульны сход членаў Таварыства можа пры захаваньні §§ 36, 37 Статуту, зьмяніць і дапоўніць яго. Аб усіх зьменах у Статуце Праўленьне Таварыства павінна неадкладна паведаміць Акруговы Зямельны Аддзел і толькі пасьля зарэгістраваньня апошнім унесеных у Статут зьмен і дапаўненьняў, яны набываюць законную сілу.

**Закладчыкі** ....................................
....................................
....................................

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ЗАКАНЧЭНЬНІ ПЕРАГЛЯДУ ЎСЯГО СКЛАДУ ДЗЯРЖАЎНАЕ ЗЯМЕЛЬНАЕ МАЕМАСЬЦІ І ПЕРАДАЧЫ Ў ПРАЦОЎНАЕ КАРЫСТАНЬНЕ ЗЯМЕЛЬ, УВАХОДЗЯЧЫХ У СКЛАД ДЗЯРЖАЎНАЕ ЗЯМЕЛЬНАЕ МАЕМАСЬЦІ І НАЛЕЖАЧЫХ ДА ПЕРАДАЧЫ ПРАЦОЎНЫМ ЗЕМЛЕКАРЫСТАЛЬНІКАМ.

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам.*

Згодна пастановы ЦВК і СНК СССР за 3 верасьня 1926 г. трэба было закончыць да 1 кастрычніка бягучага году ўсю працу па перадачы ў працоўнае карыстаньне зямель, уваходзячых у склад дзяржаўнае зямельнае маемасьці і належачых да перадачы працоўным землякарыстальнікам.

У свой час НКЗ БССР быў зроблен цэлы шэраг распараджэньняў па гэтаму пытаньню.

Паміж тым, пры асабістым аб'езьдзе працаўнікамі Народнага Камісарыяту Земляробства акруг высьветлілася, што многія Акруговыя Зямельныя Аддзелы і РВК ня выконваюць у належнай ступені распараджэньняў НКЗ па перадачы ў працоўнае карыстаньне дзяржаўнае зямельнае маемасьці. Да апошняга часу ў шмат якіх акругах, ня гледзячы на вялікі недахоп зямлі ў працоўнага сялянства, затрымліваецца ў складзе дзяржаўнае зямельнае маемасьці многа дробных садова-агародных гаспадарак з нязначнаю плошчаю садовых насадак; лугавы фонд не перадан у працоўнае карыстаньне, а частка яго здаецца і за надта вялікую плату ў арэнднае карыстаньне беднаму сялянству; вучасткі запаснага зямельнага фонду шмат дзе ня цалкам разьмяркованы паміж сялянствам і інш.

Для папярэджаньня і адхіленьня падобных здарэньняў Народны Камісарыят Земляробства прапануе ў тэрміновым парадку закончыць перагляд усяго складу дзяржаўнае зямельнае маемасьці і перадаць у працоўнае карыстаньне, згодна даных раней дырэктыў НКЗ, не прыпыняючы гэтае перадачы тэхнікай земляўпарадчых работ, наступныя катэгорыі маемасьці:

1. Малыя бяздаходныя сады з плошчай садовых насадак да 2-х дзесяцін, згодна абежнікаў НКЗ за 5/V-25 г. № 20027 і 5/IV-26 г. № 8888.

2. Дробныя лугавыя вучасткі, раскіданыя паміж сялянскімі землямі, што ўкліньваюцца ў гэтыя землі, а таксама тыя лугавыя вучасткі, якія абслугоўваюць да апошняга часу патрэбы працоўных землякарыстальнікаў сумежных вёсак. Пакінуць у складзе дзяржаўнае зямельнае маемасьці толькі тыя вучасткі, на якіх магчыма арганізацыя лугавых гаспадарак у мэтах выкананьня і падтрыманьня буйных мэліорацыйных пабудоў і адпаведнага воднага рэжыму, а таксама і тыя з іх, якія абслугоўваюць патрэбы дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, і працоўных землякарыстальнікаў, якія жывуць на вялікай адлегласьці ад скарыстоўваемых імі лугавых масываў.

*Увага.* Лугавыя масывы, прызначаныя для абслугоўваньня патрэб працоўных землякарыстальнікаў, якія жывуць на вялікай адлегласьці ад іх, павінны здавацца пераважна ў карыстаньне кооперацыйным аб'яднаньням гэтых грамадзян, ці камітэтам узаемадапамогі тых вёсак, патрэбы якіх яны абслугоўваюць, без таргоў, за плату па існуючай таксе.

3. Вучасткі мэліорацыйнага лугавога фонду, згодна пастановы ЦВК і СНК БССР за 24/VII-25 г., пакуль што пакінуць у складзе дзяржаўнае зямельнае маесьці. Яны будуць перадавацца ў пра-

цоўнае карыстаньне, пасьля выкананьня на іх мэліорацыйных работ, на ўмовах, паказаных вышэй.

4. Увесь прыгодны для сельска-гаспадарчага карыстаньня запасны зямельны фонд ДЗМ павінен быць у гэту восень разьмяркован сярод сялян з тым, каб да наступнага году неразьмяркованых зямель запаснага фонду зусім не заставалася.

5. Разам з тым, тэрмінова закончыць перагляд і вучасткаў рознага прызначэньня, і тыя вучасткі, якія знаходзяцца ў безгаспадарчым стане, альбо якія пакідаць у складзе дзяржаўнай зямельнай маемасьці немэтазгодна, выключыць з складу ДЗМ і перадаць працоўным землякарыстальнікам.

Падрабязныя зьвесткі аб ходзе працы па перадачы ў працоўнае карыстаньне дзяржаўнае зямельнае маемасьці павінны быць прысланы ў Народны Камісарыят Земляробства ні ў якім разе не пазьней 15-га кастрычніка г. г., не чакаючы канца складаньня гадовай справаздачы.

Адказнасьць за сваечасовае выкананьне гэтага абежніку ўскладаецца на Загадчыка Акружнага Зямельнага Адзелу.

*Дадатак.* Пастанова ЦВК і СНК СССР за 3/IX-26 г.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька**.

Нач. Кіраўмэліозему НКЗ **А. Шычко**.

5/8 кастрычніка 1926 г.
№ 26577

---

Дадатак.

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў СССР

### АБ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ЎСКАРЭНЬНЮ ПЕРАДАЧЫ Ў МАЛАЗЯМЕЛЬНЫХ ГУБЭРНЯХ ЧАСТКІ ДЗЯРЖАЎНАЕ ЗЯМЕЛЬНАЕ МАЕМАСЬЦІ Ў ПРАЦОЎНАЕ КАРЫСТАНЬНЕ.

Адпаведна з арт. 5 пастановы 3-га Зьезду Саветаў Саюзу ССР па дакладу аб мерапрыемствах па падняцьцю і замацаваньню сялянскае гаспадаркі (Збор. Закон. Саюзу ССР 1925 г. № 35, арт. 248) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляюць:

Даручыць Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў Саюзных рэспублік прыняць меры да зьдзяйсьненьня наступных мерапрыемстваў, накіраваных да ўскарэньня ажыцьцяўленьня арт. 5 вышэйназванае пастановы 3-га Зьезду Саветаў Саюзу ССР:

1. Закончыць да 1-га кастрычніка 1926 г. перадачу ў працоўнае карыстаньне зямель, якія ўваходзяць у склад дзяржаўных зямельных маемасьцяй і падлягаюць перадачы ў малазямельных райёнах працоўным землякарыстацелям.

2. Працу па вышэйпаказанай перадачы сконцэнтраваць у першую чаргу ў тых частках малазямельных райёнаў, дзе прысутнасьць дзяржаўных зямельных маемасьцяй утварае асобныя перашкоды дзеля сялян.

3. Упрасьціць тэхніку перадачы зямельных маемасьцяй, не ўскладняючы яе без асобнае патрэбы задачамі расьсяленьня і землянарадку.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту Саюзу ССР **Г. Пятроўскі.**

Старшыня Савету Народных Камісараў
Саюзу ССР **А. Рыкаў.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту Саюзу ССР **А. Енукідзе.**

Масква—Крэмль
3 верасьня 1926 г.

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### АБ ПЕРАДАЧЫ ШКОЛАМ ЗАЙМАЕМЫХ ІМІ ШКОЛЬНЫХ БУДЫНКАЎ НА АБШАРАХ САВЕЦКІХ ГАСПАДАРАК.

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам і Акруговым Аддзелам Народнае Асьветы.*

На абшарах савецкіх гаспадарак, якія знаходзяцца ў падпарадкаваньні Белсельтрэсту, гэтак і іншых установ і аб'яднаньняў, ёсьць шмат школ, у якіх вучацца дзеці рабочых і служачых савецкіх гаспадарак і дзеці сялян, прылягаючых да гэтых гаспадарак вёсак і хутароў. Пад гэтыя школы савецкімі гаспадаркамі адведзены будынкі (у быўшых панскіх палацах), якія дзеля падтрыманьня іх у належным парадку амаль што ня кожны год патрабуюць дужа значных сродкаў на рамонт як самых будынкаў, гэтак і на абсталяваньне іх у сярэдзіне, а таксама на застрахаваньне іх ад агню. Паміж іншым, пытаньне аб тым, хто павінен несьці гэтыя выдаткі, ня вырашана, і таму на мясцох паміж кіраўнікамі савецкіх гаспадарак і органамі Народнага Камісарыяту Асьветы (настаўніцтвам) вынікае шмат непаразуменьняў.

Дзеля таго, каб у далейшым по гэтым пытаньні ніякіх непаразуменьняў ня было, Народны Камісарыят Земляробства і Народны Камісарыят Асьветы прапануюць адпаведным органам наступнае:

1) Усе тыя будынкі, якія зараз заняты пад школы ці кватэры настаўнікаў і якія пісьмоўна яшчэ не замацаваны за школамі, абавязкова замацаваць за гэтымі школамі і за тым зьняць іх з асноўных капіталаў савецкіх гаспадарак, такім чынам яны ўжо не павінны будуць уваходзіць у аб'екты абкладаньня савецкіх гаспадарак, а павінны ўвайсьці ў аб'ект абкладаньня органаў Народнага Камісарыяту Асьветы.

*Увага.* Калі школай, ці настаўнікам займаецца ня цэлы будынак, але частка яго, то за школаю замацоўваецца толькі гэтая частка будынку, якая і зьнімаецца з асноўнага капіталу савецкай гаспадаркі.

2) Усякія рамонты і абсталяваньне ў будынках ці частках іх, замацаваных за школамі, павінны рабіцца за кошт сродкаў органаў НКА, якія і павінны праводзіцца апошнімі па каштарысу выдаткаў на гэты прадмет.

3) У мэтах магчымасьці адбудовы новых будынкаў, якія могуць быць зьнішчаны пажарам, усе будынкі ці часткі іх, якія заняты пад школы ці настаўнікамі і замацованы за школамі ў гадавы тэрмін з часу выданьня гэтага абежніку павінны быць застрахаваны органамі НКА ў адпаведных агэнцтвах Дзярж. Страхаваньня.

*Увага.* Калі будынак той ці іншай школы будзе зьнішчан пажарам, то органы Народнага Камісарыяту Асьветы па складаньні выдатковага каштарысу і па зацверджаньні яго органамі Дзяржпляну, павінны адбудаваць новы замест зьнішчанага будынку за кошт страхавой прэміі, якую яны маюць атрымаць з Дзяржстраху.

4) Выдаткі на пабудову, на розны рамонт і наогул на ўтрыманьне ў належным парадку гэтых школьных будынкаў органы НКА ўносяць у каштарыс па мясцовым бюджэце адпаведныя сумы.

5) Пры ліквідацыі школы ў цэлым усе будоўлі, якія належалі школе, калі яны для культурна-асьветных установ не патрэбны, органамі НКА перадаюцца ў распараджэньне Наркамзему.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

19 кастрычніка 1926 г.
г. Менск.

---

## 17. Циркуляр Народного Комиссариата Труда БССР

### ОБ УЧЕТЕ ИНСПЕКЦИЯМИ ТРУДА ПОСТАНОВЛЕНИЙ БЮРО НАДЗОРА ПО ТРУДДЕЛАМ И О ПРАКТИКЕ ОРГАНОВ НКТ В ОБЛАСТИ НАДЗОРА ПО ТРУДДЕЛАМ

*Всем Инспекциям (Отделам) Труда.*

В настоящее время постановления бюро надзора по трудделам в большинстве случаев не учитываются местными органами НКТ, в результате чего Бюро Надзора по одним и тем же мотивам по несколько раз отменяет постановления Третсудов и примкамер.

В частности, НКТ считает необходимым указать на следующие недочеты в этой области:

1) При отмене решения РКК, Примкамер и Третсудов вследствие их противоречия существующему законодательству—Инспекции Труда включают в свои постановления предложения, обязывающие нанимателя выполнить в определенный срок те последствия, которые вытекают из отмененных решений; органы НКТ, являясь лишь органами надзора за законностью решений при отмене незаконных решений не могут одновременно обязывать нанимателя выполнять те обязательства, которые вытекают из отмененного решения. Стороны при отмене решения могут или вторично пересмотреть вопрос или наниматель непосредственно берет на себя обязательство выполнить вытекающие из отмены решения обязанности; в случае неисполнения, трудящийся может обратиться в особую сессию по трудделам.

2) Наблюдаются случаи признания за уволенными права на получение вознаграждения за период от фактического увольнения до решения конфликтного органа, согласовавшего впоследствии произведенное увольнение. Между тем, санкционирование в конфликт-

ном органе ранее произведенного увольнения не может повлечь за собой обязательства оплаты времени за период от увольнения до момента признания жалобы уволенного не основательной.

3) Если же ни одна конфликтная инстанция увольнения не согласовала, то из этого вытекает, что увольнение юридически не имело места и что трудящийся должен быть восстановлен в прежней должности с соответствующей выплатой за время невыполнения им работы. В случае отказа на это со стороны нанимателя, трудящийся может обратиться в Трудсессию с иском как о восстановлении в должности, так и о выплате вознаграждения.

Предлагая к руководству вышеизложенное, НКТ указывает на необходимость учитывать в практике работы постановления Бюро Надзора и впредь не повторять указанных выше недочетов.

Народный Комиссар Труда БССР **Ерофеев.**

Зав. Бюро Надзора по Трудделам **Глезеров.**

Управделами НКТ **Акулов.**

5-го октября 1926 г.
№ 2.

## 18. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ НАКЛАДАНЬНІ АДМІНІСТРАЦЫЙНАГА ПАКАРАНЬНЯ НА РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ ДЗЯРЖАЎНЫХ УСТАНОЎ І ПРАДПРЫЕМСТВАЎ.

Згода пастановы ЦВК і СНК БССР за 10/VII—1925 г. аб дысцыплінарным пакараньні службовых асоб, Кіраўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў і іх Намесьнікі маюць права накладаць на рабочых і служачых дысцыплінарныя пакараньні за злачынствы па службе, якія не належаць прасьледаваньню ў крымінальным парадку.

У пераліку гэтых пакараньняў не прадугледжана накладаньне на працоўных такіх пакараньняў, як дзяжурства і г. д., паміж тым некаторыя ўстановы і прадпрыемствы няправільна ўжываюць гэтыя пакараньні.

Для правільнага вырашэньня пытаньняў аб накладаньні дысцыплінарных пакараньняў Народны Камісарыят Працы БССР прапануе строга кіравацца арт. 8 пастановы ЦВК і СНК БССР за 10/VII—1925 г. аб дысцыплінарным пакараньні службовых асоб дзяржаўных і прыроўненых да іх устаноў і прадпрыемстваў (Зборн. Зак. 1925 г. № 32, арт. 295), згодна якога Кіраўнікі дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў і іх Намесьнікі маюць права накладаць на рабочых і служачых толькі наступныя пакараньні:

а) увага, б) вымавар, в) перавод на іншую роўнаю, або ніжэйшую пасаду і г) звальненьне з пасады.

Адміністрацыя ўстаноў і прадпрыемстваў пры накладаньні пакараньняў, згодна ўвагі да п. „д“ арт. 180 К. К., таксама павінна кіравацца пастановаю ЦВК і СНК БССР за 10/VII—1925 г. аб дысцыплінарным пакараньні службовых асоб і накладаць пакараньні толькі паказаныя ў гэтым законе.

Народны Камісар Працы БССР **Ерафееў.**

Кіраўнік Справамі НКП **Акулаў.**

14 кастрычніка 1926 г.
№ 6.

## 19. Вопросы и ответы.

ВОПРОС **125**. О досрочном освобождении осужденных к принудительным работам (п. 1 ст. 456, 458, 461 ст. ст. УПК).

ОТВЕТ. Раз'яснить судебным учреждениям БССР, а в частности, Бобруйск. Окружн. Суду, что в тех случаях, когда осужденный к принудительным работам, в момент приведения в исполнение приговора, или в период отбытия принудработ, окажется одержим тяжелой неизлечимой или душевной болезнью, в надлежащем порядке установленной, к осужденному применяется условно-досрочное освобождение, согласно 458 и 461 ст. ст. УПК, а в остальных случаях заболеваний,—надлежит руководствоваться 1 ч. 456 и 461 ст. ст. УПК.

Независимо от сего, указать Окружным Судам, что при возбуждении тех или иных вопросов, требующих истолкования или раз'яснения закона, связанного с судебной практикой, надлежит каждый вопрос прорабатывать и увязывать с существующей судебной практикой на месте, вплоть до внесения вопроса на обсуждение Пленума Окружного Суда, а затем уже вопрос направлять в Верховный Суд и, таким образом, исключится формальный подход к возбуждаемым вопросам.

*(Протокол Пленума Верх. Суда БССР от 30/VII 1926 г. № 23, § 9.)*

## 20. Соцыяльнае выхаваньне ў БССР.

Перад вайной сучасная Беларусь была адсталай краінай ў адносінах народнай асьветы: на яе тэрыторыі (часткі б. Менскай, Віцебскай і Магілёўскай губ.) ня было ні воднай вышэйшай навучальнай установы, мала было сярэдніх школ; пачатковыя школы ў апошнія гады хоць і пачалі адчыняцца ў значным ліку, але працавалі яны не на роднай мове дзяцей, дзеля чаго выпускалі малапісьменых, якія з працягам часу ў значнай частцы станавіліся няпісьменнымі. Па перапісу 1920 году на 1000 душ насельніцтва прыходзілася няпісьменных у БССР 673 чал., тагды як ў эўрапейскай частцы РСФСР—603 чал., у УССР—584 чал.

Культурнае будаўніцтва, якое пачалося пасьля рэволюцыі, значна пасунула справу народнай асьветы ў Беларусі: проц. ахопу школай дзяцей 8—11 год падняўся з 43,9 проц. да 66,2 проц., пакальнік асьветы наогул (колькасьць вучняў на 100 чал. вясковага насельніцтва) падняўся з 5,6 да 7,5, але ліквідаваць зусім культурную адсталасьць насельніцтва, зразумела, яшчэ не ўдалося, ня гледзячы на тое, што сетка працоўных щкол соцыяльнага выхаваньня павялічваецца колькасна і паляпшаецца якасна.

Рост іх за апошнія тры гады выяўляецца з наступнага:

| Гады | 4-гадов. працоўныя щколы. | | | | 7-гадов. працоўныя школы. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць. | Лік наставнікаў. | Лік вучняў. | Проц. ахопу школай дзяцей 8—11 г. | Колькасьць | Лік настаўнікаў. | Лік вучняў. | Проц. ахопу школай дзяцей 12-15 г. |
| 1924-1925 | 3.773 | 5.111 | 255.992 | 63,2 | 274 | 3.012 | 85.012 | 8 |
| 1925-1926 | 4.057 | 5.645 | 279.123 | 66,2 | 261 | 3.256 | 90.421 | 8,2 |
| 1926-27 (па пляну) | 4.305 | 6.141 | 300.100 | 69,3 | 279 | 3.487 | 97.641 | 8,8 |

Працоўныя школы маюць мэту абслугоўваць дзяцей розных нацыянальнасьцяй, якія жывуць у Беларусі на іх роднай, мове. У 1925-26 г. лік працоўных школ па мове дзяцей зьяўляецца наступным:

| Школы | Белар | % | Яўр. | % | Польс | % | Расійск. | % | Інш. | % | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4-годкі | 3,794 | 93,5 | 123 | 3 | 98 | 2,3 | 27 | 0,7 | 20 | 0.5 | 4,057 |
| 7-годкі | 199 | 76,2 | 44 | 16,8 | 5 | 1,9 | 12 | 4,6 | 1 | 0.5 | 261 |

Процант школ, якія працуюць на нацыянальных мовах, адпавядае колькасьці насельніцтва паасобных нацыянальнасьцяй, за выключэньнем школ яўрэйскіх і часткова расійскіх (4-х годак). Неадпаведнасьць у адносінах да школ на яўрэйскай мове тлумачыцца, галоўным чынам, імкненьнем дробна-буржуазнага яўрэйскага насельніцтва пасылаць сваіх дзяцей у беларускія ці расійскія школы. Неадпаведнасьць у адносінах расійскіх школ 4-х гадак тлумачыцца тым, што 4-х годкі знаходзяцца пераважна ў вёсках, дзе расійскае насельніцтва жыве сярод беларускіх гушчаў асобнымі сем'ямі: расійскае насельніцтва, якое жыве ў гарадох, абслугоўваецца 7-мі гадовай працоўнай школай на расійскай мове ў аднолькавай меры з іншымі нацыянальнасьцямі.

1926-27 навучальны год пойдзе пад знакам зьдзяйсьненьня ўсеагульнага навучаньня ў БССР. Асноўныя прынцыпы ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня зацьверджаны Саветам Нар. Камісараў і Прэзыдыумам Цэнтр. Вык. Камітэту БССР 7 красавіка 1926 г. Перспэктыўны плян ўсеагульнага навучаньня Народным Камісар. Асьветы ужо складзен і дакладна распрацован для кожнага асобнага раёну і акругі. Згодна гэтага пляну, у 1926-27 г. ў БССР будзе адчынена 496 новых школьных комплектаў і проц. ахопу 4-х гадовай працоўнай школай дзяцей 8—11 год з 66,2 проц. павялічыцца да 69,3 проц.

Пакуль ня будзе зьдзейсьнена ўсеагульнае навучаньне на падставе 4-х годкі, адчыненьне новых школ 7-годак павінна быць зьменшана, каб даць магчымасьць больш шырока адчыняць школы 4-х гадовыя. Згодна пастановы Савету Нар. Камісараў і Прэзыдыуму Цэнтр. Вык. Камітэту, на кожныя адчыняемыя 20 комплектаў 4-х годкі можа быць адчынен адзін комплект новага старэйшага концэнтру 7-годкі. У 1926-27 навуч. годзе мяркуецца адчыніць 18 новых старэйшых концэнтраў 7-годкі і, апроч таго, няпоўныя 7-годкі, якія існавалі ў 1925-26 г., будуць паступова разьвівацца, адчыняючы клясы, якіх яны яшчэ ня мелі; такім чынам мяркуецца адчыніць ўсяго старэйшых груп у 7-годках у 1926-27 годзе 80. Новыя 7-годкі будуць адчыняцца, галоўным чынам, у вясковых мясцовасьцях, бо націск сялянскіх дзяцей у старэйшыя клясы 7-годкі наглядаецца вялікі. Дзеля таго, каб даць магчымасьць вучыцца сялянскім дзецям тых вёсак, якія знаходзяцца далёка ад 7-годкі, Народны Камісарыят Асьветы мяркуе адчыніць пры значным ліку вясковых 7-годак агульныя памяшканьні, на што ў каштарыс унесены адпаведныя сродкі.

На ўтрыманьне 4-гадовых і 7-гадовых працоўных школ у 1925-26 г. было выдана па мясцоваму бюджэту 5.497.420 руб., на 1926-27 г. Нар. Кам. Асьветы просіць адпусьціць 6.471.792 р., што павялічыць сродкі на ўтрыманьне школ соцыяльнага выхаваньня на 17,7 проц. Гэта дасьць магчымасьць адчыніць належную, згодна пляну, колькасьць новых школ. Агульныя выдаткі на народную асьвету па мясцоваму бюджэту ў 1926-27 г. будуць складаць 35,7 проц. усяго мясцовага бюджэту, калі заяўкі НКА будуць задаволены.

Адчыненьне значнай колькасьці новых школ патрабуе падрыхтоўкі настаўнікаў. Народны Камісарыят Асьветы БССР склаў плян падрыхтоўкі настаўніцтва, які зацьверджан ужо Дзяржплянам і Саветам Народных Камісараў. У бліжэйшія гады з гэтай мэтай будуць адчынены два новых пэдагогічных тэхнікумы, у дадатак да 10, якія існуюць у цяперашні час, амаль што ва ўсіх пэдагогічных тэхнікумах падвоен прыем новых вучняў шляхам адчыненьня роўналежных аддзяленьняў; у якасьці часовай меры будуць адчынены двухгадовыя курсы для падрыхтоўкі настаўніцтва. Для запаўненьня вакантных настаўніцкіх месц у 1926/27 годзе пойдуць студэнты, якія скончылі ў гэтым годзе пэдтэхнікумы, у колькасьці 350 чалавек, 90 настаўнікаў, скончыўшых курсы беларусазнаўства і каля 150 чалавек, скончыўшых Пэдфак БДУ.

Галоўнай Управай Соцыяльнага Выхаваньня да пачатку новага навучальнага году зроблена вялікая праца мэтодычнага характару: дакладна распрацованы праграмы комплекснага навучаньня для першых чатырох год навучаньня, што значна палегчыць працу настаўнікаў гэтых груп; для старэйшых клясаў 7-годкі перапрацованы праграмы па грамадазнаўству, матэматыцы, фізыцы, беларускай мове і літаратуры; нанова складзены праграмы па нямецкай мове і фізкультуры.

Да пачатку новага навучальнага году акруговыя аддзелы народнай асьветы паклапаціліся своечасовай дастаўкай ў школы падручнікаў. Кожным акруговым аддзелам народнай асьветы былі зроблены ўмовы з Дзяржаўным Выдавецтвам БССР на своечасовую дастаўку падручнікаў і, па атрыманых вестках, 90% патрэбнай колькасьці падручнікаў ужо дастаўлена ў школы за рахунак Дзяржавы. Падручнікі выдаюцца на мовах нацыянальнасьцяй, якія жывуць у Беларусі, і зьяўляюцца прыстасаванымі да выпрацаваных праграм і комплекснай сыстэмы.

Падрыхтоўка да новага навучальнага году з гаспадарчага боку ў гэтым годзе праведзена больш-менш здавальняюча: па атрыманых вестках у большасьці вясковыя школы забясьпечаны на зіму апалам і рамонт школьных памяшканьняў зроблен своечасова.

Значна горш стаіць справа з разьмерамі і гігіэнай школьных памяшканьняў і кляснай мэбляй. 45% вясковых школ ня маюць уласных памяшканьняў і зьмяшчаюцца ў звычайных цесных сялянскіх хатах. Новае школьнае будаўніцтва значна адстае ад адчыненьня новых школ. Мясцовы бюджэт ня можа адзін зьдзейсьніць гэту вялікую справу; патрэбна значная дапамога з боку дзяржаўнага бюджэту. Па пляну ўсеагульнага навучаньня школьнае будаўніцтва расьцягнута на 15 год.

Школьная мэбля папсавалася, навочныя вучэбныя прылады амаль што зьнішчаны. Па вестках Нар. Каміс. Асьветы, за 1924/25 год ня мелі патрэбнай мінімальнай колькасьці навучальных дапамог 87% усіх школ соцыяльнага выхаваньня, не здавальняюча забясьпечаны мэбляй 82 проц. школ. Малыя сродкі, якія адпускаюцца на ўтрыманьне школ (у сярэднім 650 р. на комплект) не даюць магчымасьці палепшыць гэтую справу. На 1926-27 год утрыманьне аднаго комплекту даведзена да 700 р., але гэтае нязначнае дабаўленьне вельмі мала палепшыць становішча.

Праца вясковага настаўніка пры такіх умовах зьяўляецца цяжкай. Да гэтага дабаўляецца яшчэ вялікая нагрузка настаўніка: у вясковых школах прыходзіцца на аднаго настаўніка, у сярэднім, 60 вучняў.

**Д. Сьцяпура.**

## 21. Аб ужываньні наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках.

Зямельны Кодэкс БССР, зацьверджаны 29 сакавіка 1923 году, а таксама і новы Зямельны Кодэкс БССР, уведзены ў дзейнасьць з 1 красавіка 1925 году, як і зямельныя кодэксы іншых саюзных рэспублік, прадугледалі асобны разьдзел „Аб дапаможнай наёмнай працы ў працоўных сялянскіх гаспадарках“ (Зям. Кодэкс БССР, разьдзел III). У гэтым разьдзеле Зямельнага Кодэксу была пастаўлена задача асобнага праўнага рэгуляваньня батрацкае працы ў сялянскіх гаспадарках.

Але праблема гэта ня была вырашана ні Кодэксам Законаў аб працы, ні пазьнейшым законадаўствам 1923/24 г. г. У прынцыпе наёмная праца ў сельскай гаспадарцы рэгулявался агульным працоўным законадаўствам. Тут трэба таксама адзначыць, што паўнатуральны характар сялянскай гаспадаркі, якою яна ў большасьці сваёй выйшла з пэрыяду грамадзянскай вайны, ня выклікаў да апошняга часу вялікай патрэбы ўжываць наёмную працу. Гэты паўнатуральны характар гаспадаркі патрабаваў ужываньня дапаможнае рабочае сілы ня ў моцных заможных гаспадарках: а, наадварот, у незаможных гаспадарках, часова аслабленых або стыхійнымі няшчасьцямі, або адсутнасьцю працаздольных членаў двара.

Становішча аднак значна зьмянілася, калі на аснове агульнага ўздыму гаспадаркі стала хутка ўзрастаць таварнасьць сялянскае гаспадаркі, калі разам з вытворчымі хлебнымі культурамі пачалі разьвівацца каштоўныя інтэнсыўныя рыначныя культуры і жывёлаводзтва. Ужываньне дапаможнае рабочае сілы патрэбна стала ня толькі незаможным гаспадаркам, але і інтэнсыўным серадняцкім, якія ня могуць разьвівацца толькі на аснове рабочай сілы сям'і.

Паступова стала выяўляцца, што для працоўных сялянскіх гаспадарак павінны быць утвораны іншыя ўмовы ўжываньня дапаможнае наёмнае працы, як гэта было раней, калі мэханічна пераносіліся многія правілы ўжываньня наёмнае сілы ў фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах на сельскую гаспадарку, што шкодна адбівалася на апошняй.

На падставе вышэйзазначанага Савет Народных Камісараў Саюзу ССР 18 красавіка 1925 году зацьвердзіў „Часовыя правілы аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гасп дарках“. Гэтыя правілы маюць на мэце ня толькі абарону інтарэсаў батрацтва, але зьяўляюцца таксама чарговым мерапрыемствам Ураду на шляху ўтварэньня ўмоў для шырокага разьвіцьця і ўзмацненьня сельскае гаспадаркі.

Гэтыя правілы пашыраюцца толькі на сялянскія гаспадаркі, у якіх наёмная праца зьяўляецца дапаможнаю; да сялянскіх-жа гаспадарак прамысловага тыпу, такіх, якія працуюць у асноўным з дапамогаю наёмнае працы, павінны ўжывацца пастановы аб умовах працы ў савецкіх гаспадарках (ін. кажучы—павінна ўжывацца агульнае працоўнае законадаўства з асобнымі спэцыяльнымі нормамі).

III-і Зьезд Саветаў Саюзу ССР 20 мая 1925 году ўхваліў „часовыя правілы“ за 18 красавіка 1925 году, пашырыўшы гэты закон таксама на ўжываньне сялянскімі гаспадаркімі дапаможнае рабочае наёмнае сілы на арандаванай зямлі. На Саветы Народных Камісараў Саюзных Рэспублік было ўскладзена выданьне інструкцый да гэтых правіл.

У БССР такая інструкцыя зацьверджана пастановаю Савету Народных Камісараў БССР за 12 жніўня 1925 году і апублікавана ў № 43 Збору Законаў БССР за 1925 год.

Паводле часовых правіл і інструкцыі да іх наём парабкоў і парабчанак павінен рабіцца па пісьмовым працоўным дагаворы. У такім дагаворы павінны быць адзначаны: а) асноўныя работы, на якія наймаецца парабак, б) тэрмін найму, в) рабочы час, г) разьмер заработнае платы, яе від, спосаб і тэрміны выплаты, д) дадатковыя ўмовы, якія ўстанаўляюцца старанамі. Умова не павінна пагоршваць становішча парабка паводле правіл і інструкцыі. Ад імя парабка дагавор можа рабіць і падпісаць профэсіянальны саюз. Тэрмін працоўнага дагавору не павінен перавышаць аднаго году, а таксама забараняецца заключаць працоўныя дагаворы, выкананьне якіх пачынаецца не ў бягучым годзе ці ў будучым сельска-гаспадарчым сэзоне. Не пазьней, як праз два тыдні з моманту найму, працоўныя дагаворы належаць рэгістрацыі ў сельскіх саветах бясплатна. Заключэньне пісьмовага дагавору не абавязкова, калі наём робіцца толькі для выкананьня асобных работ на тэрмін ня больш двух тыдняў адначасова або ня больш аднаго месяца ў розны час на працягу году.

Сельскія саветы ня маюць права ўносіць ніякіх зьмен у дагаворы, якія падаюцца ім на рэгістрацыю. Паводле інструкцыі СНК БССР, права патрабаваць ад наймальніка зьмен умовы і прызнаваць асобныя пункты ўмовы пагоршваючымі становішча парабка ня дзейнымі належыць інспэкцыі працы, пры гэтым інспэкцыя працы па патрабаваньні парабка або профсаюзу вырашае пытаньне аб адмене незаконнага дагавору.

Да работы па найму ў сялянскіх гаспадарках дапушчаюцца, па агульнаму правілу, падлеткі не маладжай 14 год. Але для выкананьня лёгкіх работ могуць дапушчацца таксама і падлеткі ад 12 да 14 год. Забараняецца ўжываць працу падлеткаў і цяжарных жанчын на шкодных для іх здароўя работах.

Павялічаны рабочы дзень (г. зн.—рабочы дзень звыш 8 гадзін) дапушчаецца па згодзе старон у залежнасьці ад характару работ у паасобныя сельска-гаспадарчыя пэрыяды. Парабку гарантыруецца аднадзенны адпачынак раз у тыдзень і звальненьне ад работы ва ўсе рэволюцыйныя сьвяты, а таксама і іншыя сьвяты, якія ўстанаўляе НК Працы БССР. У выпадку неабходнасьці тэрміновага выкананьня якіх-небудзь работ дапушчаецца работа парабка ў нерабочыя дні з тым, каб нескарыстаны адпачынак быў заменены парабку іншым днём адпачынку або грашовай адплатай у разьмерах, устаноўленых па згодзе.

Разьмер узнагароды за працу парабка ня можа быць ніжэй дзяржаўнага мінімуму заработнае платы, устаноўленае для данае мясцовасьці. Наймальнік ня мае права прымушаць парабка атрымліваць заработную плату натураю замест устаноўленай па згодзе грашовай платы. Парабку павінна быць дадзена годная для жыльля кватэра і харчы, аднолькавыя з харчамі сям'і наймальніка.

Рабіць самастойна затрыманьні і адлічэньні заработнае платы парабка наймальнік ня мае права. У выпадках, калі парабкам будзе зроблена наймальніку наўмысная шкода сапсаваньнем ці згубаю маемасьці наймальніка, апошні можа падаць на парабка іск аб адплаце шкоды праз міравую камісію пры раённым выканаўчым камітэце ці праз працоўную сэсію і народны суд.

Пытаньні забесьпячэньня парабкоў ці парабчанак на выпадак хворасьці, родаў і калецтва вырашаны наступным чынам. Сялянская гаспадарка, якая карыстаецца наёмнаю працаю на працягу ўсяго сельска-гаспадарчага году, павінна ў выпадку хваробы парабка ці парабчанкі, а таксама ў выпадку родаў апошняй, калі парабак, ці парабчанка прарабілі ў даннай гаспадарцы ня менш месяца—выплачваць ім вызначаную ў дагаворы заработную плату і даваць кватэру і харчы на працягу аднаго месяца з моманту спыненьня працы па прычыне хваробы ці родаў. Сялянская-ж гаспадарка, якая карыстаецца наёмнаю працаю толькі ў паасобныя пэрыяды сельска-гаспадарчых работ, павінна выплачваць вызначаную ў дагаворы заработную плату і даваць кватэру і харчы на працягу двох тыдняў з моманту спыненьня працы па прычыне хваробы ці родаў, калі парабак ці парабчанка працавалі ў гэтай гаспадарцы ня менш 2-х тыдняў. Лячэбныя органы і ўстановы павінны лячыць парабкоў і парабчанак у часе хваробы і родаў бясплатна.

У выпадку родаў парабчанкаю, ці ў выпадку цяжкай хваробы, або няшчаснага здарэньня з парабкам ці парабчанкаю наймальнік павінен або завесьці хворага (хворую) да доктара, у бальніцу, ці на мэдыцынскі пункт, або прывезьці доктара, фэльчара ці акушэрку да хворага.

Наймальнік можа дабраволька застрахаваць парабка ці парабчанку, плацячы за іх узносы ў страхавую кассу і ў гэтым выпадку выплата заработнае платы ў часе хваробы ці родаў, а таксама выплата ўзнагароды ў выпадку калецтва ці сьмерці робіцца страхавою касаю на агульных падставах.

Калі з незастрахаваным парабкам у часе ці ў зьвязку з работай ў наймальніка здарылася няшчасьце, наймальнік павінен адплаціць парабку за шкоду ад гэтага здарэньня ў разьмерах, устаноўленных належным судом.

Наймальнік можа па ўважлівых прычынах звольніць парабка да сканчэньня тэрміну дагавору з папярэджаньнем за 2 тыдні, або з выплатаю заработнае платы за 2 тыдні ўперад, калі такога папярэджаньня ня будзе. Пры звальненьні наймальнікам парабка раней тэрміну і нязгоды зволенага з матывамі звальненьня, конфлікт вырашаецца міравою камісіяю, а пры недасягненьні згоды—працоўнай сэсіяй, ці народным судом.

Разьмер выхадной дапамогі пры звальненьні раней тэрміну вызначаецца з разьліку заработнае платы грашовай і натуральнай, згодна арт. арт. 89—90 Кодэксу Законаў аб Працы.

Для разгляду спрэчак, узьнікаючых у зьвязку з звальненьнем парабка, а таксама ўсякіх іншых спрэчак у зьвязку з работаю і ўмовамі аб найме пры раёнідных выканаўчых камітэтах утвараюцца міравыя камісіі. У выпадку нязгоды ў міравой камісіі спрэчкі вырашаюцца народным судом.

7 ліпеня 1926 году Савет Народных Камісараў БССР на падставе „Часовых Правіл“ прыняў таксама пастанову аб адказнасьці наймальнікаў за парушэньне гэтых правіл і інструкцый да іх.

Паводле гэтае пастановы за парушэньне „Часовых Правіл“ і інструкцыі да іх наймальнікі падлягаюць адказнасьці ў судовым парадку паводле 132 арт. Крымінальнага Кодэксу (парушэньне наймальнікам Кодэксу Законаў аб Працы).

Наймальнікі падлягаюць адказнасьці ў наступных выпадках:

а) за нявыплату парабку заработнае платы ў умоўленыя працоўным дагаворам тэрміны ці ў вызначаным разьмеры;

б) за ўжываньне працы недарослых і цяжарных жанчын на цепасільных і шкодных для іх здароўя работах;

в) за нядачу парабку жыльля і харчоў;

г) за нявыплату парабку або парабчанцы ў выпадках іх хворасьці, альбо родаў апошняй абумоўленай заработнай платы, а таксама за нядачу жыльля і харчоў у працягу аднаго месяца, калі парабак наймаўся на цэлы год і калі ён прарабіў у гаспадарцы ня менш месяца, або ў працягу 2-х тыдняў, калі парабак прарабіў у гаспадарцы ня менш 2-х тыдняў;

д) за звальненьне парабка з прычыны ўдзелу ў грамадзкай рабоце, або за тое, што ён лічыцца членам профэсіянальнага саюзу.

За парушэньне ва ўсіх гэтых выпадках наймальнікі падлягаюць пакараньню штрафам ня ніжэй 100 рублёў, або пазбаўленьнем волі на адзін год.

Ва ўсіх іншых выпадках парушэньня „Часовых Правіл“ і інструкцыі да іх наймальнікі прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку і падлягаюць, згодна пастаноў раёных выканаўчых камітэтаў, грашоваму пакараньню ня звыш 15 руб., альбо прымусовым работом без пазбаўленьня волі на тэрмін ня звыш 7 дзён.

За ўсе іншыя незазначаныя вышэй парушэньні наймальнікі могуць прыцягвацца да адказнасьці таксама і ў судовым парадку, згодна арт. 132 Крымінальнага Кодэксу, калі наймальнік паўторыць гэтае парушэньне, альбо зробіць гэтым парушэньнем парабку значны матар'яльны ўбытак. У гэтых выпадках наймальнікі прыцягваюцца да адказнасьці па вымаганьні пракурорскага нагляду, альбо органаў Народнага Камісарыяту Працы.

Такім чынам, адпавядаючае цалкам сучаснаму становішчу сялянскае гаспадаркі законадаўства аб ужываньні ў сялянскай гаспадарцы наёмнае рабочае сілы, уводзіць у вёсках пэўныя формы абароны працы, палягчае організацыю батрацтва і разам з гэтым забясьпячае далейшае разьвіцьцё і ўзмацненьне сельскае гаспадаркі.

**А. Майсейчык.**

## 22. Еще о проекте Кодекса законов о браке, семье и опеке.

Поскольку редакцией „Бюллетеня“ об'явлена по этому вопросу дискуссия, я считаю необходимым сказать несколько слов по поводу помещенной в № 8 статьи тов. Поречина и в № 9 статьи тов. Ватаци. Тов. Поречин, сторонник уравнения брака нерегистрированного с регистрированным, в подтверждение своего мнения приводит в своей статье на стр. 50 следующий „конкретный пример“ зарегистрированного и незарегистрированного брака: „Крестьянин прожил совместно с женой в незарегистрированном браке 10 лет, потом разошелся с ней. Проработавшая в его семье десять лет женщина не имеет никакого права на выдел из имущества двора“ и т. д. Такой пример меньше всего является „конкретным“, ибо приводимое в нем положение совершенно неправильно, так как женщина, проживщая в крестьянском дворе 10 лет на положении жены, хотя бы и незарегистрированной, а не наемной работницы, является полноправным членом двора и при выходе из него имеет право получить все причитающееся на нее долю. Тов. Перечин, очевидно, упустил из виду, что имущественные права членов сельского двора регламентируются не Кодексом законов о браке, семье и опеке, а соответствующими статьями раздела 5-го Земельного Кодекса. Поскольку, таким

образом, имущественные интересы члена двора нисколько не зависят от регистрации или не регистрации брака, а для семьи рабочего, как говорит сам тов. Поречин, этот вопрос не существует ввиду отсутствия там общего имущества, постольку аргументы, приводимые тов. Перечиным в пользу фактического брака, являются совершенно не убедительными.

В статье тов. Ватаци вызывает недоумение ее центральное место на стр. 89, где он говорит: „но обязанность выплачивать алименты, как социальная повинность, сюда не относится, почему алименты не могут быть взыскиваемы с имущества крестьянского двора“. Эта фраза, напечатанная к тому же курсивом, казалось бы должна была бы быть выводом из тех предпосылок, которые приводит тов. Ватаци, раз‘ясняя ст. 69 Зем. Код. Между тем, ознакомившись со всем тем, что имеется в статье до этой фразы, а равно и после нее, мы видим, что логический вывод из всех рассуждений тов. Ватаци совершенно противоположный, а именно—что алименты должны взыскиваться с имущества крестьянского двора. Таким образом, остается предположить, что здесь или произошла досадная опечатка, или тов. Ватаци сделал вывод, совершенно не соответствующий остальному содержанию его статьи.

В отношении самого проэкта я считаю необходимым отметить следующее:

Поскольку новый Кодекс законов о браке, семье и опеке должен суммировать тот опыт судебной практики, который накопился за 8 лет действия старого Кодекса, постольку в нем, естественно, должны быть полностью отражены все те циркуляры и распоряжения, которые за это время были изданы в его дополнение, дабы он мог дать исчерпывающий ответ на все те вопросы, какие возникают в судебной практике. Между тем, проэкт далеко не удовлетворяет этому требованию и многие вопросы не находят в нем должного освещения. Взять хотя бы вопрос об алиментах в отношении крестьянского двора. Разве ст. ст. 22, 28, 29, 41 и 42 проэкта нам говорят об этом? Нет, не говорят, и опять ст. 69 З. К. будет толковаться вкривь и вкось и требовать бесчисленного количества раз‘яснений. Как бы ни разрешался вопрос об ответственности членов двора по алиментам: отвечают ли они только личным имуществом или своей долей в общем хозяйстве, или алименты взыскиваются со всего имущества двора, то или иное положение должно найти себе отражение в новом Кодексе, хотя бы в виде примечания к одной из вышеперечисленных его статей. При этом необходимо сказать, что ответственность всего двора чрезвычайно пагубно отражается на его хозяйстве. Всякое развитие двора, с коего присуждены алименты, совершенно замирает. Все, что имелось в хозяйстве лишнего, продается и оставляется только неотчуждаемый минимум. Принятие ребенка в двор, как советует в своей статье тов. Ватаци, совершенно нежизненно и не ограждает прав ребенка, а, наоборот, ставит его под угрозу смерти в самом младенческом возрасте. Трудно, конечно, найти выход для обеспечения ребенка при общей маломощности крестьянских хозяйств, но мне кажется, что наиболее жизненным будет все-таки, обращение взыскания по алиментам не на весь двор, а только на долю ответчика в общем хозяйстве. Статья 28 проэкта была бы более жизненной, если бы в ней был ограничен срок обязанности содержать нетрудоспособного супруга, а самый размер содержания был определен не выше норм Собеса, так как, в про-

тивном случае, эта статья будет способствовать развитию паразитизма и по рукам и ногам свяжет обязанную сторону. Мне кажется, необходимо уточнить ст. 34 проэкта, указав, что ее положение относится или только к тому случаю, если родители детей, рожденных до брака, впоследствии вступили в брак между собою, или же оно относится и к тем внебрачным детям, родители коих не вступали в брак и впоследствии. Без такого уточнения ст. 34, не вызывая сомнения относительно обязанности родителей доставлять содержание до совершеннолетия и внебрачным детям, оставляет сомнительным вопрос о наследственных правах внебрачных детей, родители коих не вступили последствии между собою в брак.

Нежизненным является положение ст. 42 о возможности признания отцом ребенка нескольких человек, так как, если с каждого из них присудить потребную на содержание ребенка сумму, то это вызовет неосновательное обогащение матери и может послужить основанием для различных злоупотреблений, если же сумму, потребную на содержание ребенка, распределить между всеми, то это создаст излишнюю волокиту при взыскании этой суммы по частям. Более жизненным было бы в случаях, предусмотренных ст. 42, присуждать алименты с более состоятельного.

Вот те дополнения и исправления, какие, на мой взгляд, необходимы для того, чтобы практическое применение новаго закона не вызывало никаких недоразумений при его толковании.

Член Коллегии Защитников **М. Рейшах**.

---

## 23. Ветеринарные попечительства и их значение в борьбе с заразными болезнями животных *).

Борьба с заразными болезнями животных требует сознательного отношения населения к мероприятиям против распространения этих болезней. Ведь целый ряд мероприятий стеснителен, неудобен и невыгоден для отдельных хозяев, но необходим в интересах всего общества, в интересах скорейшего искоренения заразы.

Без участия самого населения немыслима успешная борьба с заразными болезнями животных. Такие меры, как устройство в деревнях скотских кладбищ, закрытие пастбищ, подворное содержание скота, воспрещение ввоза и вывоза животных и фуража из неблагополучных селений, воспрещение убоя животных без ведома и разрешения ветеринара—все это только тогда будет достигать цели, когда само население будет за этим следить.

Ведь, несомненно, что та горсточка специалистов—ветеринарных врачей и фельдшеров, которая у нас имеется, совершенно не в состоянии справиться со всеми установленными законом ветеринарными мероприятиями, если само население не окажет живой поддержки в проведении в жизнь этих мероприятий.

Только широкая самодеятельность населения, только живое участие его в повседневной работе по осуществлению мер борьбы с болезнями животных даст возможность изгнать эти болезни и этим укрепить крестьянское хозяйство, подведя под наше животноводство

---

*) Інструкцыя аб вэтэрынарна санітарных апекаваньнях надрукавана ў № 11 (20) Бюл. СНК.

здоровый, прочный фундамент. Вот почему, для того, чтобы привлечь население к участию в мероприятиях по предупреждению и прекращению заразных болезней скота и, вообще, усилить заботы самих крестьян о скоте, наше ветеринарное законадательство (Ветустав БССР) разрешает организовать в каждом селении ветеринарно-санитарное попечительство. Для ветеринарно-санитарных попечительств открывается широкое поле плодотворной работы.

Попечительства, прежде всего, должны установить живую и тесную связь со своими участковыми ветработниками и договориться с ними о порядке работы. Попечительства наблюдают за состоянием скота в своем селении и сообщают ветврачу или ветфельдшеру (непосредственно или через с/совет) о каждом подозрительном заболевании и о внезапной смерти скота. В случаях, где есть подозрение на заразу, наблюдают, чтобы не снималась кожа с трупа до распоряжения ветработника. Попечительства в каждом селе организуют скотомогильники, следят за их состоянием и за тем, чтобы все трупы павших животных зарывались на скотомогильниках, а не разбрасывались бы по задворкам. Попечительства наблюдают за состоянием источников воды, из которых население берет воду для питья и поения скота, оберегают эти источники от возможного заражения и порчи, следят за тем, чтобы не сваливались на берега речек и прудов навоз и нечистоты, чтобы крестьяне не черпали воду из общего колодца или родника собственными загрязненными ведрами, а чтобы при колодце имелось одно общественное ведро.

Попечительства не допускают ставить общих водопойных колод на улицах селений и при проезжих дорогах, т. к. колоды являются главнейшими распространителями заразы. Совместно с крестьянами попечительства производят осмотр скота перед выгоном в стадо. Осматривают также все выпасы и имеют наблюдение за работой пастухов. Помогают ветработникам наблюдать за выполнением правил, касающихся убоя скота на мясо в сельских местностях и продажи мясных продуктов на сельских базарах. Во время появления повально-заразных болезней попечительства, имея на руках подворные списки всего скота в деревне, ведут точный учет убыли его, а также наблюдают за исполнением гражданами предписаний и указаний ветработников и издаваемых по борьбе с заразными болезнями обязательных постановлений Окрисполкомов и Райисполкомов. Попечительства участвуют при осмотрах трупов павших застрахованных животных и при составлении актов и тем содействуют уменьшению участившихся злоупотреблений с получением страховки за скот.

Такова в общих чертах работа ветеринарно-санитарных попечительств. О работе ветсанитарных попечительств Наркомземом по согласовании с Наркомвнуделом выработана подробная инструкция. А чтобы попечительства не были на деле мертвым и бездеятельным органом, к выбору членов попечительств необходимо отнестись с большим вниманием. В попечительства должны выбираться наиболее деятельные и развитые из граждан, способные понять всю важность возложенной на них работы. Только удачный подбор членов может обеспечить успех работы ветеринарно-санитарных попечительств. Застрельщиком в организации ветпопечительств должна быть сознательная крестьянская молодежь, особенно сельско-хозяйственные кружки, как наиболее передовые организации деревни. Члены сельско-хозяйственных кружков молодежи под руководством комсомола должны первые организовать предупреждение заноса заразных болезней, организовать при участии и под руководством ветработни-

ков ветеринарно-санитарные попечительства, устроить скотские кладбища и под руководством ветврачей повести правильную борьбу с болезнями животных. Комсомол привлечет стариков и при участии районных ветработников в ближайшие годы уничтожит заразу, оздоровит сельское хозяйство, а вместе с ним и все хозяйство нашей трудовой республики.

Пусть повсеместно, во всех селах и деревнях будут созданы ветеринарно-санитарные попечительства, как органы крестьянской самодеятельности. В самодеятельности населения, в тесной связи населения и органов власти—залог успеха того большого и важного дела, о котором говорит наш Ветеринарный устав.

Ветеринарный врач **М. Жарин.**

---

## 24. Да пытаньня аб скарачэньні непатрэбных акруговых установ.

*(У парадку абгаварэньня).*

Пытаньне аб скарачэньні непатрэбных акруговых установ, па маей думцы, павінна заняць першае месца ў абгаварэньні яго сярод працаўнікоў нашага Савецкага апарату і насяленьня. Кожнаму з нас вядома, што ў нашым Савецкім апараце (акруговы цэнтр) шмат ёсьць лішніх установ, дзейнасьць якіх у сувязі з хуткім разьвіцьцём савецкага будаўніцтва пачынае заміраць і яшчэ таму, што галоўная ўвага савецкага будаўніцтва паступова перекладаецца на Райённы ніжэйшы апарат (Райёныя Выканаўчыя Камітэты). Таксама вядома і тое, што нашай далейшай задачай павінна быць усебаковае ўтаньненьне савецкага апарату і ўтварэньне ім правільных умоў, спрыяючых абслугоўваньню нашага будаўніцтва і насяленьня. З аднаго боку, мы гэтае пытаньне высоўваем за скарачэньне непатрэбных Акруговых установ наогул, а з другога боку—у сувязі з рэжымам экономіі. Няхай чытачы ня мысьляць, што я гэтае пытаньне высоўваю толькі ў сувязі з рэжымам экономіі, але, галоўным чынам, у сувязі з тым, што гэтыя ўстановы нам зусім непатрэбны (аб іх будзем казаць ніжэй). Я сабе мысьлю, што цэнтр савецкага будаўніцтва трэба перанесьці ў Райвыканкомы, бо тыя ўстановы аб якіх, мы маем абгаварэньне, зусім ня кіруюць працай у райёнах. Падыходжу да самага сэнсу высоўваемага пытаньня. Напрыклад, Акруговы Сабес і Камітэт Узаемадапамогі, як аддзелы акруговага выканаўчага Камітэту зусім непатрэбны, і вось чаму: яны ня кіруюць жыцьцём райённаў і апрача таго яны няжыцьцёвы і жыцьцёвымі быць ня могуць. Скараціўшы Акр. Сабез пры Маг. Акруговым Выканаўчым Камітэце пры Магілеўскім Гор. Савеце ўтварыць невялічкі Сабез, які будзе абслугоўваць гарадзкое насельніцтва, а рэшту працы перадаць у райёны. Акруговы Камітэт Узаемадапамогі трэба зусім зьнішчыць, у выніках чаго будзем мець, папершае, скарачэньне непатрэбнай акруговай установы, а, падругое, эканомію сродкаў, якія траціліся дарэмна. Апрача гэтай карысьці ажывіцца праца наогул. Такім чынам мэтазгоднасьць гэтага даводзіць вельмі ня прыходзіцца.

Далей ідзе Акруговы Інспэктарыят Лясоў, які лічыцца самастойнай акруговай установай. На што ён? Інспэктарыят лясоў павінен быць неадзельнай часткай Акруговага Зямельнага Аддзелу, а ў

адносінах да райённых Лясьніцтваў інспэктароў трэба далучыць да зямельнае часьці Райённых Выканаўчых Камітэтаў. Тут мы ізноў маем скарачэньне непатрэбных штатных адзінак і прыбліжэньне Лясного апарату да органаў кіраўніцтва. Апрача гэтага, неабходна прапрацаваць пытаньне аб скарачэньні часьцей акругове дзяржаўнае маемасьці і мэліарацыі і г. д. Потым неабходна ўрэзаць бухгальтэрскі штат Акр. Саюзу і за кош яго павялічыць і палепшыць інструктарскі апарат Акр. Саюзу, або па існуючых палажэньнях Акр. Саюз слаба кіруе працай на райёнах, а наша коопэратыўная дзейнасьць патрабуе жывога кіраўніцтва, а не габінэтнага. Вядома, ёсьць яшчэ шмат установ, якія неабходна паступова скарачаць. Таварышы, якія будуць адказваць на гэты артыкул, шмат знойдуць такіх-жа ўстаноў і напэўна будуць даводзіць аб іх нямэтазгоднасьці, прычым агавараваюся: хай ня думаюць, што я пачаў займацца зьнішчэньнем апарату, але гэта наша савецкая практыка даўно ўжо давяла, што трэба скараціць непатрэбныя акруговыя ўстановы, якія перашкаджаюць поўнаму ходу савецкага будаўніцтва. Па гэтым пытаньні неабходна выказацца ўсім таварышам і добра абгаварыць яго, а заканадаўчым установам трэба будзе пайсьці па лініі ўзмацнёнага ўтаненьня нашага савецкага апарату.

**Я. Збуржынскі.**

4-га кастрычніка 1926 г.
г. Чаусы Маг. Акругі.
Райвыканком.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**